PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 50 (1909) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 13 СНЕЖНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ВЕЛЬМІ ДОЎГІ ДЗЕНЬ

Даволі нечаканы візіт прэм'ер-міністра польскага ўрада Ганны Сухоцкай у Менск, зусім нечакана прымусіў мяне стаць урадавым перакладчыкам. Мая перакладчыцкая прыгода пачалася раніцай у сераду 18 лістапада, калі ў два самалёты польская дэлегацыя паднялася ў паветра з вайсковага аэрадрома ў Варшаве.

Менск прывітаў нас снегам і парадам ганаровага ўзвода. Узвод выглядаў сюррэалістычна, маршыруючы пад бел-чырвона-белым сцягам у сваіх савецкіх мундзірах і з зоркамі на вушанках, але што ж рабіць — не да такіх ідовішчаў прывыклі мы апошнім часам.

Праца пачалася для мяне каля адзінаццатай гадзіны. Перакладаў я размовы польскай дэлегацыі пад кіраўніцтвам міністра па справах супрацоўніцтва з замежжам А. Арандарскага з беларускім бокам, які ўзначальваў міністр замежных спраў П. Краўчанка. Тлумачачы, я зразумеў, як цяжка ладзіцца супрацоўніцтва між дзвюма дзяржавамі, якія дагэтуль практычна нічога супольнага не мелі. Польшча проста баіцца, што зальюць яе тэрыторыю натоўпы былых савецкіх грамадзян, таму, напрыклад, на адкрыццё большай колькасці прапускных пунктаў прыйдзецца пачакаць, прынамсі да часу, пакуль Беларусь не ўвядзе свае пашпарты. Затое не за гарамі беларускае консульства ў Беластоку.

Як міністр П. Краўчанка, так пасля і прэм'ер-міністр В. Кебіч не забывалі пра патрабаванні беларусаў у Польшчы, перш за ўсё аб заканчэнні пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і перадачы Супрасльскага манастыра праваслаўным. З боку сп. Г. Сухоцкай было дадзена абяцанне паруліца ў гэтым.

Лёгка і прыемна перакладаліся мне прамовы падчас абеду, які выдаў у гонар сп. Г. Сухоцкай сп. В. Кебіч, тым больш, што ўсе стравы былі дасканалыя.

Выдатнай была таксама атмасфера куртуазнага візіту сп. Г. Сухоцкай у старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча, які вітаў польскую дэлегацыю ў кампаніі беларускіх парламентарыяў, у тым ліку і з апазіцыі.

Пад канец пабыўкі ў Менску пачалося хваляванне: паводле камунікатаў мэтэаслужбаў над Гроднам вісеў густы туман. Тым часам у Гродне чакалі сп. Г. Сухоцкую беларускія палякі. Усё ж такі прызямліліся мы шчасліва. Вітаў сп. Г. Сухоцкую гаспадар Гродзеншчыны старшыня аблвыканкама Д. Арціменя. Пасля візіта ў аблвыканкаме польская прэм'ер-міністр знайшлася ўжо ў руках сваіх суродзічаў з Беларусі.

Спачатку наведала яна будынак Саюза палякаў Беларусі (будан, але будуецца новая сядзіба), скуль пераехала ў гродзенскі тэатр, дзе чакала яе каля тысячы мясцовых палякаў. Хлебам-соллю афіцыйна вітаў сп Г. Сухоцкую старшыня Саюза палякаў Беларусі Т. Гавін. Былі спевы і патрыятычныя вершыкі, якія чыталі першакласнікі з польскіх школ.

Самая сустрэча нічым не адрознівалася ад падобных сустрэч польскіх беларусаў з дастойнымі госцьмі з Беларусі. Ідэнтычныя нясцыпныя нараканні на нястачу грошай, памяшканняў і наогул на зацікаўнасць польскіх уладаў праблемамі палякаў у Беларусі.

☞ Працяг на стар. 2



Нялёгка ўстанавіць узрост пушчанскіх дрэў. Дубы растуць прыблізна 400-500 гадоў, але не тысячу, як некаторыя памылкова мяркуюць. Найбольш магутным помнікам прыроды ў Белавежскай пушчы з'яўляецца "Цар-дуб". Расце ён на акраіне даліны ракі Лясной у надлясніцтве Гайнаўка /аддел 513 А/, непадалёк вузкакалейкі з Нязнанага Бору ў Тапіла. Вышыня дрэва 41 м, дыяметр - 204 см, акружнасць - 604 см.

Летам я меў магчымасць пабачыць "Цар-дуб". На жаль, ён ужо не расце, а толькі стаіць. З пня адвальваецца кара, якой кавалкі ляжаць ля яго падножжа. На засохшым голлі няма ніводнага лістка. Чакае яго лёс "Дуба Ягайлы". Так ужо ў лесе заведзена, што старыя дрэвы засыхаюць, а іх месца займаюць маладыя. Жыццё лесу не з'яўляецца вечным трываннем дрэў.

Тэкст і фота
Уладзіслава Завадскага

Аўтахтоны і іншыя

## КАБ ЗДОРАВА І БАГАТА

З'яўленне - нечуванай раней - Беларускай Дзяржавы выклікала хвалю зацікаўлення беларускай тэматыкай. Адбываюцца ўсёмагчымыя канферэнцыі з удзелам цэлых групаў гасцей з Менска. Маюць яны характар чыста інфармацыйны, а прыняты на іх дэкларацыі ёсць толькі дэкларацыямі, якія аніхога не абавязваюць. От, высноваі столькі. Называецца гэта фармаваннем грамадскай думкі /наконт дадзенай праблемы/.

Прыканцы лістапада мелі месца ў Варшаве два такія мерапрыемствы. Першае, прысвечанае становішчу ў сферы культуры нацыянальных меншыняў, і другое - пра экалагічную канцэпцыю "Зялёных лёгкіх" Польшчы і Еўропы. Цікава зазначыць, што там і там публіка была амаль тая; пераехалі прафесары з дацэнтамі з аднаго будынка ў другі, валакучы за сабою сябрыну... Аказваецца, можна гаварыць пра ахову лясоў і адначасна пра ахову фальклору. Ну, вядома, па вярхах, выходзячы з універсальных праўдаў.

На прадмет меншыняў не сказана нічога такога, пра што мы ўжо сто разоў не чулі. Нават у выступленнях іхных прадстаўнікоў, настолькі свежых, што багатых фактамі, але без глыбейшага асэнсавання. Трохі як на нейкай нарадзе інструктараў грамадскіх таварыстваў. Аднак трапілася зерне новай інфармацыі: *палякі, якія жывуць на беларускамоўным арэале Беласточчыны, увогуле не цікавяцца ані гісторыяй гэтай зямлі, ані яе актуальнымі праблемамі, паводзячы сябе паводле псіхалогіі каланізатарскай масы /вынікі сацыялагічных апытанняў/.* І наступнае: выяўлена прапарцыянальную залежнасць абсягаў культурнай дзейнасці ад ступені паўсюднасці навучання роднай мовы. Напрыклад, хто хадзіў на ўрокі беларускай, таму "Ніва" не будзе бачыцца як нешта дзіўнае, чаго няма ахвоты і ў рукі браць...

Удзел польскіх дзеячаў з Гарадзеншчыны і Віленшчыны настолькі быў патрэбны, што - нечакана самім арганізатарам канферэнцыі - вынес на дзённае святло прыкрую праўду: *нацыянальныя меншыні ёсць заложнікамі міждзяржаўных палітычных адносінаў.* Прасцей кажучы: будзе кепска палякам у Беларусі, то будзе кепска і беларусам у Польшчы.

У падсумаванні канферэнцыі запісана: цяжка і прыкра быць нацыянальнай меншыняю, а ў выпадку канфлікту паміж суседнімі дзяржавамі, першым дастанецца па гарбе палякам у Гарадзеншчыне і беларусам у Беласточчыне. Аналагічна і ў іншых народаў, як бачым тое хаця б у Карабаху.

Пайшоў я на канферэнцыю і пра "Зялёныя лёгкія". Справа ў тым, што на

☞ Працяг на стар. 8

## МАЛАЯ ПАЛІТЫКА

Беластоцкія беларусы ўжо два разы прымалі ўдзел у парламенцкіх выбарах і за кожным разам прайгравалі. Прайграем і наступныя. А станецца гэта па двух прычынах: па-першае, нашае грамадства яшчэ доўга будзе жыць ілюзіяй вяртання старога парадку, да якога адносіцца з вялікай сентыментальнасцю. Гэтую палітычную наіўнасць і ірацыяналізм беларусаў выкарыстаюць яшчэ няраз усялякія цванікі і крывадушнікі. Другая прычына, па якой у найбліжэйшых выбарах беларуская меншасць не будзе мець сваіх прадстаўнікоў у парламенце - гэта новае палажэнне аб выбарах, у якім не прадбачваюцца ніякія льготы для нацыянальных меншасцяў. Працэнтны парог, які ўводзіць новае палажэнне, не дае меншасцям ніякіх шанцаў выйгрышу.

Паўстае пытанне, ці ў такіх умовах варта ўвогуле ісці на выбары і пхацца ў гэтую вялікую палітыку. Безумоўна так. Стары прынцып: "непрысутныя не маюць рацыі" - актуальны і тут. За пару гадоў беларусы могуць дайсці да вываду, што варта галасаваць за сваіх прадстаўнікоў. Імгла, якая вісіць над нашай зямлёю, калісьці ападзе і ўсё стане ясна. Так ці інакш, беларусам патрэбны ёсць хтосьці, хто будзе гаварыць пра нашы праблемы там, дзе іх вырашаюць.

Парламенцкія выбары павінны быць аднак маргінальнай з'явай нашай палітычнай актыўнасці. Асноўнай справай астаецца самаўрадавыя выбары. Яны вырашаюць, хто будзе войтам, бурмістрам, дзе будаваць дарогі, школы, водаправоды. На працягу апошніх гадоў большасць т. зв. "нашых людзей" пераканалася, што дэманстараваць польскі нацыяналізм, гэта зусім мала, каб стаць дырэктарам, прэзэсам ці іншым начальнікам. Ніколі, зразумела, не выкінуць кагосьці з пасады таму, што ён іншай нацыянальнасці, але таму, што не мае адпаведнай адукацыі, хаця на яго месца можа прыйсці чалавек зусім без адукацыі; аб'явяць конкурс, якога вынік вядомы ўжо раней, чым ён адбудзецца. Страціўшы працу большасць т. зв. "нашых людзей" будзе стаяць, разявіўшы рот, здзіўляцца таму, што сталася, а пасля з бяссільнасці праклінаць усіх і ўсё.

Справа ў тым, што ўсё рашае той, хто мае ўладу, а цяпер улада - прынамсі самаўрадавая - залежыць ад волі грамадства. Што перашкаджала беларусам выйграць выбары ў Бельску, Гайнаўцы, мець сваіх райцаў у Беластоку: страх, разлезласць, лянота? Наракаць сёння, што выкінулі кагосьці з працы, што не прадалі таго ці іншага будынка, хаця нам быў найбольш патрэбны, няма сэнсу, бо мы самі не хацелі ў гэтай справе мець выразны голас. А можа праз гэтых пару гадоў мы ўжо чагосьці навучыліся?

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*My nie chcemy nikogo zamykać w obozach. Chcemy tylko, żeby wszystkie mniejszości narodowe, które są przeciwko Polakom, opuściły Polskę. Bilety w łapę i niech zmykają do Izraela i innych krajów, a jak nie, to zrobimy im wczasy i będą siedzieć za drutami.*
*(Kurier Podlaski, nr 230, у размове са скінгэдамі)*

**Значыць, ёсць усё-такі людзі, якія думаюць пра сацыяльнае забеспячэнне ў краіне. А мы лічылі, што толькі міністр Курань пра гэта клапоціцца...**
**Там жа:**

*Tatarzy nie pchają się do władzy, więc są w porządku. Nie lubimy Białorusinów. Oni się u nas panoszą.*

Przestroga dla ojca Białorusina: uważaj na syna, żeby nie wyszedł na skina.

* * *

*Poszukujemy młodych, ładnych, towarzyskich dziewcząt. Praca za granicą.*
***(Kurier Podlaski, nr 230)***

**А гаворадь, што цяпер цяжка за граніцай знайсці працу.**

* * *

*Po wizycie pani premier na Białorusi wysłuchałem przez radio komentarza, że Białorusini skorzystają z naszej pomocy „przy wejściu do Europy". Koń by się uśmiał...*
*(Polityka, nr 48)*

* * *

*Studenci piszą o Żydach.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 274)*

**Урэшце перасталі іх біць?**

* * *

*Komunizm był zdegenerowaną odroślą Oświecenia, tak jak ideologia hitlerowska była spotworniałym bękartem Romantyzmu.*
*(Leszek Kołakowski, Gazeta Wyborcza, nr 274)*

**А тое, што маем цяпер? Выкідыш Сярэднявечча, здэгенераваны прымессю кубізму?**

* * *

***Утрыманне гасьцей каштавала 28 тысячаў долараў, ня ўлічваючы маіх прыватных выдаткаў на звязаныя з гэтым падарожжы й вельмі каштоўныя тэлефонныя размовы. На новыя інструменты патрэбных было 13 тысяч долараў.***
***„Ці сумленне прамаўляе да чалавека?"***
***(Алесь Палескі, Зважай, н-р 3(67), 1992)***

**А цяпер Алесь вярнуўся ў Польшчу, каб зарабляць на хлеб. А госці прабываюць у Амерыцы. Ці сумленне прамаўляе да чалавека? Не, — кажам мы.**

* * *

*Cerkiew w Wielopolu po akcji „Wisła" w 1947 r. przejął skarb państwa, a w 1960 r. przekazano ją Polskiemu Autokefalicznemu Kościołowi Prawosławnemu, a rok temu wróciła do Kościoła bizantyjsko-ukraińskiego.*
*(PAP)*

**Цікава, калі цэрквы на Беласточчыне пачнуць вяртаць візантыйска-ўкраінскаму касцёлу? Украінцы ўжо знайшліся.**

* * *

***Szewardnadze ochrzczony.***
***(У шмат якіх газетах пісалі)***

**Мы яго разумеем. Навошта дзядзьку сустракацца з былым Палітбюро КПСС на тым свеце?**

* * *

*Poseł ponad prawem?*
*(Gazeta Wyborcza, nr 276)*

**А чаму ж бы й не? Калі ён можа быць па-над здаровым розумам, то далей ужо нічога дзіўнага...**

## З мінулага тыдня

**"У некаторых сродках масавай інфармацыі з'явіліся паведамленні, якія ў неаб'ектыўны спосаб перадалі сэнс выказванняў прэм'ер-міністра РП Ганны Сухоцкай у час яе візіту ў Беларусь 18 лістапада г.г. У сувязі з гэтым МЗС Рэспублікі Беларусь лічыць патрэбным паведаміць, што ў час візіту ў Менск спадарыня прэм'ер Сухоцка не давала ніякіх асаблівых заяў наконт дакументаў падпісаных паміж Расеяй і Беларуссю" - чытаем у заяве МЗС Беларусі, перададзенай у рэспубліканскія газеты.**

**"У будучым годзе дзяржава хоча прызначыць на культуру толькі 0,6 працэнта бюджэту. Так дрэннай сітуацыі не было яшчэ ніколі", - сказаў пісьменнік Вітальд Залескі на пасяджэнні Рады па справах кніжкі, якая з'яўляецца адной з секцый Рады культуры, створанай пры прэзідэнце РП.**

**Таварыства нацыянальнай меншасці цыганоў "Салідарнасць" зарэгістравана ў Ваяводскім судзе ў Кельцах. Яго мэта - абарона правоў грамадзян цыганскай нацыянальнасці і прапагандаванне іх культуры.**

**У галерэі Т Настаўніцкага клуба ў Лодзі 3 снежня г.г. адкрылася персанальная выстаўка прац мастака Міколы Давідзюка.**

**У Коўне адбылося адкрыццё сядзібы Саюза палякаў у Літве. Урачыстасць парушыла запрошаная дзячка "Саюдзісу", якая пакрытыкавала палякаў за тое, што ўступілі ў "варожую Літве арганізацыю".**

**Апеляцыйная калегія пры Самаўрадавым сейміку Беластоцкага ваяводства за два гады свайго існавання разгледзела звыш 2000 спраў. Скаргі датычылі рашэнняў войтаў, бурмістраў і прэзідэнта горада Беластока. Ніводная апеляцыя не паступіла з гмінаў Дубічы-Царкоўныя, Чаромха і Рудка.**

**У Кузніцы гранічныя службы вярнулі назад грамадзянку СНД, якая прабавала перавезці 3500 каробак папяросаў, 230 літраў спірту і 75 бутэлек каньяку.**



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Унучкі беларускага сяляніна кіравалі расійскай імперыяй.
- ✓ Камуністы не знішчылі могілкаў.
- ✓ Сталін уваскрос.
- ✓ Праваслаўны прыход у Кляшчэлях.

## ВЕЛЬМІ ДОЎГІ ДЗЕНЬ

☛ *Працяг са стар. 1*

У Варшаву вярнуліся мы пасля адзінаццаці вечара. Цэлы дзень на нагах, амаль увесь час у напружанні, ані хвіліны на адпачынак. Да гэтай палітыкі трэба мець конскае здароўе.

Што ж на канец? Візіт усвядоміў мне, як далёка нам яшчэ да нармальнага суседства і празрыстай мяжы, пра што марць як беластоцкія беларусы, так і гродзенскія палякі.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**БЫВАЙ ЗБРОЯ!**

Аўтары закона аб памяншэнні савецкай ядзернай пагрозы амерыканскія сенатары Сам Нан і Рычард Дугар наведалі Беларусь. Падчас сустрэч са Старшынёй урада і Старшынёй парламента з беларускага боку была выказана зацікаўленасць у хуткатэрміновым вывадзе з тэрыторыі рэспублікі ядзернай зброі.

Узнімаліся таксама пытанні аб эканамічным становішчы ў рублёвай зоне і магчымасцях увядзення нацыянальнай валюты.

**СТРАЦІЎШЫ - ЗАПЛАЦІМ**

Па дадзеных Міністэрства фінансаў на праграму ажыццяўлення Закона аб мовах у 1992 годзе выдзелена 45 мільёнаў рублёў з дзяржаўнага бюджэту. Амаль 19 з іх аддадзена Міністэрству культуры, 17,5 - Міністэрству адукацыі, 8,6 мільёна - Міністэрству інфармацыі.

**КАЛІ ЗОРКІ ДАГАРАЮЦЬ...**

Не хутка, нават пасля таго, як пытанне аб новай форме нацыянальнага войска разгледжана на камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, беларускія вайскоўцы развітаюцца з састарэлым "хэбэ". Эскізы кукардаў, пагонаў радавога і сяржанцкага саставаў, шаўронаў, а таксама эмблемаў радоў войскаў адпрацаваны на дапрацоўку. Такім чынам, фабрычныя ўзоры атрыбутыкі ваеннай формы з'явяцца не раней як праз паўгода. Алеі пасля таго новыя эмблемы гады 2-3 будуць суседзіць са старога крою кіцялямі - не прападаць жа назапашанаму на вайсковых складах дабру. Месца пяцікантовай зоркі пакуль вакантнае. Шукаецца адзіны знак-сімвал, які б яго заняў.

**ВОЙСКІ НА ПЛОШЧЫ**

Шчыльнымі радамі ўслед за педагагічнымі работнікамі выйшлі на плошчу Незалежнасці больш за 5 тысяч прадстаўнікоў Саюза афіцэраў Беларусі. Пікетчыкі патрабавалі прадставіць слова старшыні Саюза на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, каб данесці да народных выбраннікаў прапановы аб далучэнні да Дагавору аб калектыўнай бяспецы, аб выступленні з ініцыятывай заключэння з сумежнымі дзяржавамі двухбаковых пагадненняў наконт узаемнага ненападзення, аб устанаўленні адзінага ўзроўню прававой і сацыяльнай абароны вайскоўцаў і ветэранаў Узброеных сіл. Прагучала афіцыйная заява аб згодзе сесіі на выступленне прадстаўніка Саюза. Па ўсім відаць, цягацца з войскам парламенту не пад сілу.

**ЗДАРОВЕНЬКІ БУЛЫ!**

Пры Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Францішка Скарыны як адна з нацыянальных філій Міжнароднай асацыяцыі ўкраіністаў будзе працаваць Беларуская асацыяцыя ўкраіністаў. Яе задача - вывучэнне і прапаганда духоўнай і матэрыяльнай культуры ўкраінскага народа, ведаў пра Украіну, даследаванне і далейшае мацаванне беларуска-ўкраінскіх культурных узаемасувязей. Старшынёй камітэта Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў стала вядомая даследчыца беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязей, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Таццяна Кабржыцкая.

**УСЁ НІЖЭЙ І НІЖЭЙ**

У Менску назіраецца беспрэцэдэнтнае падзенне вытворчасці. Каля сотні прадпрыемстваў закончыць год са стратамі. Па прагнозах гарадскога ўпраўлення статыстыкі ў першую чаргу - гэта арганізацыі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, бытавога абслугоўвання, гандлю. Прадугледжваецца, што колькасць беспрацоўных перавысіць 7 тысяч чалавек, а рэальны заработак паменшыцца больш як на чвэрць. Гэта дае падставы сцвярджаць, што, нягледзячы на запэўніванні ўрада, жыццёвы ўзровень беларусаў няўмольна коціцца ўніз.

**З НОВЫМ ВАЎЧЭРАМ!**

Падобна на тое, што і на Беларусі хутка пачнецца ўсеагульная "ваўчэрызацыя" насельніцтва. Днямі першы намеснік прэм'ер-міністра рэспублікі Міхаіл Мясніковіч зацвердзіў праграму мераў па прыватызацыі. Згодна гэтаму дакументу ўжо ў студзені наступнага года будзе вызначаны кошт беларускага ваўчэра. А дзесьці ў сакавіку з'явіцца спіс аб'ектаў, якія можна будзе купіць за прыватызацыйныя чэкі.

**АЛЬМА-МАТЭР ДЛЯ ДЭПУТАТАЎ**

Здаецца, беларускім бізнесменам вельмі надакучыла слухаць камедыйныя выступленні нашых парламентарыяў. У верасні будучага года ў Менску адчыніць дзверы спецыяльная акадэмія парламенцкай культуры. Народныя выбраннікі могуць навучыцца правільна і прыгожа выступаць, а таксама цывілізавана дыскутаваць з апанентамі. Навучанне платнае. Выкладаць у "дэпутацкай" акадэміі будуць вядомыя парламентарыі свету, у прыватнасці з Еўрапарламента, Нацыянальнага сходу Францыі і Кангрэса ЗША. Акрамя таго, слухачы акадэміі будуць мець магчымасць стажыравацца ў краінах СНД і за межамі Садружнасці. Усе выдаткі на ліквідацыю парламенцкага невуцтва ўзялі на сябе беларускія прыватныя прадпрымальнікі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## З НАРАЎКІ

Ужо закончылі ў Нараўцы будову амбулаторыі. Пачала яна ўжо прымаць пацыентаў.

У Нараўцы таксама відаць прыватызацыю. Паявіліся тры новыя крамы. Каля вуліцы Гайнаўскай выдзелілі месца для сельскага рыначку, з трыма прылаўкамі. Тут часта прадаюць свае тавары госці з усходу.

Кіно, якое будзе стаяць каля амбулаторыі, таксама хутка пачне працаваць. Засталося толькі пакласці тынк звонку і ўнутры будынка.

## АПОШНІ АЎТОБУС

У сераду 11 лістапада 1992 г. аўтобус, які ад'язджае ў Бельск-Падляшскі а 20.10 з Гайнаўкі, прыехаў у Гайнаўку з гадзінным спазненнем. На пытанне пасажыраў, ці паедзе ў Бельск, шафёр адказаў:

- А чаго я паеду? Ужо позна. Еду на начлег, - пераліčыў грошы і паехаў с в а і м аўтобусам ВКD 721Е дадому.

Дзьмуў марозны вецер у гэты святочны дзень. Людзям было непрыемна.

**АЎРОРА**

## ВАДА З КРАНА

У кастрычніку бягучага года ваду з крана ўжо мелі жыхары вёскі Вітава, што ў гміне Дубічы-Царкоўныя. Падключылі яе да пяцідзесяці дамоў ды гаспадарчых будынкаў. У спомненых гаспадароў не было ўжо вады ў студнях. Сяляне з Вітава заплацілі да 3 мільёнаў злотых кожны. Гмінныя ўлады далажылі да вадапровада яшчэ 150 мільёнаў злотых.

У мінулым годзе ваду з крана атрымала каля сарака двароў у вёсцы Істок. Тут паасобныя гаспадары плацілі за гэтую выгаду па 2 мільёны злотых.

— Зараз стварыліся грамадскія камітэты пабудовы водаправодаў у Вілюках і Вярстку, — паінфармаваў войт Дубіцкай гміны Анатоль Паўлоўскі. — Ім таксама будзе патрэбная наша фінансавая дапамога. У будучым годзе за ваду з водаправода прыдзецца ім заплаціць па пяць мільёнаў злотых.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## І НЕ ГАРЫЦЬ СВЯТЛО

Прыемна пісаць аб добрым, але і пра кепскае напісаць абавязак. Вось у Міхалове Гмінная спулдзельня непазбежна ідзе да ўпадку. У 50-х гадах нашы бацькі складалі грошы, каб арганізаваць гэты кааператыў, а цяпер, аказваецца, грошы гэты трапілі быццам бы ў балота. Спулдзельня развальваецца на вачах. Няма ўжо масарні. Каб змалоць муку на хлеб, трэба ехаць у Гарадок, бо міхалоўскі млын на хлеб ужо не меле. У гандлёвым доме адрэзалі электраэнергію і стаіць ён напалавіну пусты. Быў рэстаран — зараз яго таксама няма.

Хто гэтаму ўсяму вінаваты? Пры камуне будавалі, а цяпер развальваюць?! На мой погляд сапраўдным віноўнікам з'яўляецца свабодны гандаль. У Міхалове ёсць некалькі прыватных крамаў, вядзецца і вулічны продаж. Гэтым апошнім займаюцца суседзі з былога Саюза, якія за бясцэнак прадаюць свае тавары. Людзі мала тавараў купляюць у спулдзельчых крамах і таму ў іх няма грошай. І таму не гарыць святло ў міхалоўскім ГСе.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## ПАЛЯЎНІЦТВА НА РАЗДАРОЖЖЫ

Паляўніцтва ў Белавежскай пушчы, хаця і не лічыцца ў пасляваенны перыяд галоўнай з гаспадарак, усё ж такі мела тут высокі ранг. Паляўнічая служба, якая арганізавалася ў пачатку шасцідзесятых гадоў, добра выконвала свае абавязкі. Людзі, якія не мелі схільнасці да гэтай працы, адыходзілі па сваёй волі. Тыя, што асталіся, у хуткім часе ставалі прафесіяналамі. На жаль, у апошніх гадах кампетэнтныя вышэйшыя ўлады пачалі недружалюбна абыходзіцца з паляўніцтвам. Скарачалі штаты, змянялі прынцыпы, паводле якіх вызначаецца колькасць адстрэлаў звярыны /пачаў вырашаць аб ім не лік у статку, а ўзровень нанесеных звярынай шкодаў/. Наканец дайшло да таго, што ў новым законе аб лясах, у спіску лясной службы не называюцца пасады для працаўнікоў паляўніцтва.

Новы закон аб паляўніцтве пакуль што абмяркоўваецца ў Сейме /праўду кажучы, існуюць тры праекты гэтага закону, апрацаваныя Польскім саюзам паляўнічых, міністрам аховы асяроддзя, прыродных рэсурсаў і лясніцтва а таксама сенацкі; найбольш сенсоўны першы з названых/. Але калі закон і будзе ўхвалены, ён разбурыць усе дагэтуль абавязваючыя прававыя нормы і структуры. Згодна новаму закону звярына стане ўласнасцю ўласніка грунтаў, на якіх яна знаходзіцца. Той жа ўласнік і будзе вырашаць аб яе лёсах. Няцяжка сабе ўявіць, што гэта абазначае на практыцы. Неўзабаве старая паляўнічая служба ў пушчы рассыплецца. Звярынай пачне апекавацца лясная служба, не надта добра падрыхтаваная да гэтай ролі.

Пакуль што, паляўнічая гаспадарка ў пушчы функцыянуе па-старому. Паляўнічая плошча ахоплівае тут каля 62 тысяч га, з чаго звыш 51 тысяча га гэта лясы. Падзелена пушча на дзевяць паляўнічых вобласцей. Кожнае пушчанскае надлясніцтва мае іх па тры. Найменшая вобласць, якая знаходзіцца ў лясніцтве Стачок /яе называюць "школьнай"/ ахоплівае 1.600 га, найбольшая - у надлясніцтве Броўск - займае звыш 10 тысяч га. Усе яны займаюцца гадоўляй цэнных пародаў звярыны і наладжваннем валютных паляванняў. Працей кажучы - маюць яны прыносіць дзяржаўнай гаспадарцы прыбытак.

Паляўнічая служба ў пушчы на сённяшні дзень налічвае ўсяго 10 чалавек. Дзевяць з іх гэта паляўнічыя наглядчыкі ў ранзе ляснічых ці падляснічых. Дзесятым з'яўляецца кардынатар іхняй працы - Лех Мілкоўскі, у ранзе надляснічага.

Праца паляўнічага-наглядчыка заключаецца ў сачэнні за звярынай, утрымоўванні паляўнічых палетках /у пушчы займаюць яны амаль 250 га/, забяспечванні кормам на зіму /разыходзіцца яго каля 400 тон/, абслугоўванні валютных паляўнічых /дэвізоўцаў/, выконванні планаў адстрэлу звярыны і г.д. Вельмі часта здараецца, што выходзіць ён на працу ў тую пару, калі кожны з нас звычайна сядае выгадна ў крэсла, каб паглядзець у тэлевізары дзённік. А нярэдка трэба выйсці на світанку, калі бярэ наймацнейшы сон.

Планы адстрэлу ад некалькіх гадоў састаўляюцца паводле шкодаў, якія гаспадарцы наносіць лясная звярына. На гэты год /а трэба зазначыць, што ён у паляўнічых трывае з 1 красавіка да 31 сакавіка наступнага года/ прадбачаны адстрэл 35 лосяў, 600 аленяў, 560 сарнаў, 715 дзікаў. Каб чытач меў нейкі вобраз - мала ці многа гэта - падам, што апошні падлік звярыны ў пушчы, гадавой даўнасці, паказаў, што жыве ў ёй /за выключэннем тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку/: 54 ласі, 1.575 аленяў, 2.495 сарнаў, 1.040 дзікаў.

Лікі адстрэленай звярыны былі даволі высокія і ў папярэдніх паляўнічых сезоны. Напрыклад, у апошнім /1.IV.91 - 31.III.92 г./ адстрэлена 36 лосяў, 705 аленяў, 458 сарнаў і 751 дзік, а ў перадапошнім /1.IV.90 - 31.III.91 г./ 19 лосяў, 472 алені, 299 сарнаў, 1.103 дзікі. Узровень адстрэлаў павышаецца ад 1960 г. Толькі дзіўна, што шкоды, як былі наношаны, так і наносяцца надалей. Ніхто жа з леснікоў не кажа, што яны ліквідаваліся ці выдатна скараціліся. Каля 40 прац. упаляванай за апошнія дваццаць гадоў звярыны паходзіць з тэрыторыі надлясніцтва Белавежа.

У мясцовага насельніцтва існуе перакананне, што звярыну выбіваюць у пушчы пераважна адны дэвізоўцы. З падлікаў Л. Мілкоўскага вынікае зусім іншае. Замежнікі /галоўным чынам немцы/ выконваюць сярэдне ў год усяго толькі 11 прац. адстрэлаў. Затое даход з іх паляванняў - у агульнай суме - складае амаль 60 прац. Так што трэба толькі жадаць сабе, каб валютных паляўнічых прыязджала ў Белавежу як найбольш. Але з гэтым у апошнія гады штораз горш. Яны больш ахвотна едуць, напрыклад, у Балгарыю, Венгрыю, Румынію. Там намнога лепшыя ўмовы для паляванняў. Вельмі прывабныя месцы для лоўлі і ў былой ГДР, а нават і Расіі, дзе зараз даступны тэрыторыі, дзе раней палявала былая партыйна-ўрадавая наменклатура.

У наладжванні валютных паляванняў белавежская паляўнічая служба абапіраецца галоўным чынам на супрацоўніцтва з дзвюма замежнымі фірмамі - нямецкай і швейцарскай. Часам шукаюць паляўнічых і на ўласную руку.

У бягучым сезоне адзін з нямецкіх паляўнічых адстрэліў аленя, якога рогі важылі 10,17 кг, г. зн. класіфікуюцца на залаты медаль. Апошні "залаты алень" быў адстрэлены ў пушчы восем гадоў таму.

**ПЁТР БАЙКО**

### ЗАПРАШЭННЕ НА ВЫСТАЎКУ

14 снежня г.г. (панядзелак) у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры ў Беластоку, вул. Кілінскага 8, адкрываецца выстаўка мастацкіх прац спадарыні **Тамары Тарасевіч** з Белавежы. Пачатак а 14 гадзіне.

## УЛАДЗІМІР ХІЛІМАНЮК — ШЧЫРЫ БЕЛАРУС

Уладзімір Хіліманюк нарадзіўся ў 1926 годзе ў Дубічах-Царкоўных у сям'і небагатага селяніна Леўкі. Меў ён яшчэ тры малодшыя сёстры. Бацька іх, Леўка, дружыў з маімі дзядзькамі і бацькам. Па прычыне беднаты і сацыяльнай няроўнасці за санацыі многія людзі лёгка паверылі сталінскай прапагандзе, якая абяцала ім рай на зямлі. Такім чынам Леўка і мае дзядзькі, Мяфодзій і Ванька, сталі камуністамі. Дзядзькі мае нават апынуліся з-за гэтага на некалькі гадоў у турме. Уладзімір за санацыі закончыў чатыры класы пачатковай школы; хадзіў яшчэ ў школу за саветаў, але вучобу перапыніла вайна. Не пакінула яна яго, а прыхапіла з сабою ў нялёгкую адысею: вясною быў ён адпраўлены на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Герой наш папаў у вёску Гогенфірст (48 км ад Кенігсберга) ва Усходняй Прусіі да беднага, як на нямецкія ўмовы, гаспадара Франца Гільзэ. Гаспадар гэты быў добрым і спагадлівым чалавекам, палюбіў ён Валодзю за яго сумленнасць і прастату і падарыў яму, як узнагароду, наручны гадзіннік. Не ўсім аднак вялося так добра, як яму. У той жа самай вёсцы, але ў іншага гаспадара, служылі парабкамі два іншыя беларусы: адзін з-пад Пружан, другі — з-пад Ружан. Яны часта цярпелі здзекі ад унтэр-афіцэра, які прыязджаў з горада. Аднойчы яны падрэзалі яму горла, забралі вінтоўку і ўцяклі ў лес. Немцы іх злавілі і разам з іншым парабкам, які на ўкрадзенай машыне забіў цяжарную жанчыну, засудзілі на смяротнае пакаранне. Валодзі запомнілася выкананне гэтага прыкладнога прысуду: адзін з пакараных двойчы зрываў вяроўку, на якой яго вешалі. Пэўна разлічваў ён на нейкую спагаду немцаў і дараванне яму жыцця. За трэцім разам, аднак, вяроўка вытрымала і павіс ён на шыбеніцы так як і два ягоныя таварышы па няшчасці.

Набліжаўся фронт. Начамі чуваць было гул савецкіх і амерыканскіх бамбардзіроўшчыкаў; бамбілі яны Кенігсберг, аж зямля стагнала. Валодзю ж, і такіх як ён парабкаў, немцы пагналі на акопы. Была гэта непасільна цяжкая работа і за адно непаслушэнства Валодзя папаў у лагер непадалёк Тыльзіта. Умовы там былі вельмі цяжкія, але ён ніколі не траціў надзеі на вызваленне. На гэты момант чакаў ён паўгода — да вясны 1945 г. Вызваліцелі перш за ўсё сарвалі з рукі гадзіннік, падараваны раней ягоным гаспадаром, не паганьбавалі таксама брытвай, памазком і іншымі дробнымі прадметамі. Да гэтага яшчэ аблаялі яго. На фронт не папаў, бо не было яму яшчэ 18 гадоў, трапіў аднак, не па сваёй волі, у Ленінград. Была гэта свайго роду ссылка — спазнаў ён там гора па самыя вушы. На свае вочы пабачыў, як пакутуе савецкі народ і якая іх, бальшавікоў, справядлівасць — куды горшая чым у немцаў-акупантаў. Намагаўся ён вырвацца адтуль на Радзіму — перашкодаў ставілі яму столькі, што не апісаць і не расказаць. Аднак, прабыўшы ў Ленінградзе чатырнаццаць месяцаў, ён усё-такі выраваўся і ў маі 1946 года вярнуўся дамоў — у Дубічы-Царкоўныя.

Бацькоў дома ўжо не сустрэў: яны, разам з маімі дзядзькамі, паверыўшы ў абяцаны „рай", выехалі ў Савецкі Саюз. Валодзя не паспеў іх асцерагчы і затрымаць.

У 1947 годзе пайшоў ён у суседнюю вёску Тафілаўцы ў прыймы да маладой прыгожай дзяўчыны — Варкі Рыбак. Яна таксама зазнала гора — была на прымусовых работах у Нямеччыне, а брата яе немцы павесілі ў Белавежы. Маладым трэба было ўсё пачынаць нанава: пабудавалі яны мураваны дом, а пасля гаспадарчыя будынкі і клуню. Нарадзілася ім пяцёра дзяцей: тры дзяўчынкі і двух хлопцаў. Усе яны ўжо дарослыя, маюць свае сем'і, усім добра паводзіцца, адзін з сыноў выехаў у ЗША, адкуль дасылае грашовую дапамогу сваім бацькам, братам і сёстрам.

Бацька яго, Леўка, пакуль жыў, прыязджаў да сына часта ў госці. Расказваў ён пра свой цярністы шлях у СССР. Выехаў ён з маім дзядзькам Мішкам аж пад Адэсу, а пасля, падводамі, ехалі адтуль у Беларусь, каб быць бліжэй польскай граніцы. Бываў там і Валодзя ў гасцях.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**



*Уладзімір Хіліманюк з унучкай Эляй.*

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ

## да кніжкі Юры Туронка „Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі”

Умовы пасляваеннага перыяду, да васьмідзесятых гадоў уключна, у якіх даследаваў Юры Туронак новую гісторыю Беларусі і яе народа, вызначылі ступень труднасцяў, якія прыйшлося яму пераадолець м.інш. і ў працы над кнігай „Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі”. Незалежна ад таго, аўтар з бенедыкцінскай цярплівасцю сабраў неабходныя інфармацыі іх акрушыны і павязаў лагічна памайстэрску ў сэнсоўную цэласць.

В. Іваноўскі выхаваны ў сутыкненні з беларускай культурай, выйшаўшы ў свет, як студэнт, не без уплыву прысутных усё яшчэ сярод моладзі ідэяў рамантызму, свядома заняўся праблемай адраджэння і развіцця беларускай культуры ды спробай вывесці яе з надворкаў фальклору. Нягледзячы на перашкоды з боку сям’і, дзяржаўных уладаў і недахоп фінансавых рэсурсаў, ён паспяхова заняўся выдавецкай справай, а затым і палітычнай дзейнасцю, пачынаючы ад заснавання Беларускай рэвалюцыйнай партыі.

У першых 4-х раздзелах аўтар даказаў перадавую ролю героя ў беларускім адраджэнскім руху сярод тагачаснай моладзі. У гэтай частцы кніжкі аўтар амаль не кранае пытання магчымага дачынення В. Іваноўскага да руху змагання за незалежнасць Польшчы. Аднак вызваленне яго са смаленскага лагера ў 1919 г. па патрабаванню польскага ўрада ў рамках дамовы аб абмене заложнікамі (стар. 79) ды увядзенне яго генералам Жалігоўскім у кастрычніку 1920 г. у склад Часовай урадавай камісіі Сярэдняй Літвы (стар. 85) наводзяць на думку, што В. Іваноўскі мог быць „сваім чалавекам” і ў польскай палітыцы таго часу.

Насоўваецца таксама пытанне, наколькі жыццёвая філасофія, псіхіка, а затым і пастава В. Іваноўскага — інтэлігента-шляхціца прыставала да народа, у асноўным сялянскага, за адраджэнне якога ён змагаўся. Калі верыць успамінам Зміцера Жылуновіча (стар. 97) „Тройца” захаваўся ў адносінах да яго як тыповы абшарнік на Беларусі да чалавека, якога залічаў да ніжэйшага стану — з дозай пагарды. Ён зігнараваў свайго госця Цішку Гартнага (псеўданім Жылуновіча), якніяк публічную ўжо ў тым часе асобу і партнёра, хоць не аднадумца, а не звычайнага парабка. Няма таксама яснасці, якой мэце мае служыць пакінуты без каментарыя, а выняты быццам бы з крымінальнай аповесці, эпізод з мемуараў Тадаса Іванаўскаса — брата Вацлава Іваноўскага (стар. 107) пра злачынствы мясцовых жыхароў Лябёдкі — грабяжы маёмасці і здзекі над астанкамі продкаў Іваноўскіх. Можна яго ацаніць як звычайную інфармацыю аб лютасці і дзікасці мужыкоў, але недалёка шукаць прыклады іншага трактавання сялянамі паноў, якіх лічылі „добрымі”, і помачы ім у ратунку перад бальшавікамі. Астаецца тады да разважання думка рэлятыўнага параўнання і залежнасці захавання сялян у адносінах да сям’і Іваноўскіх з пазнейшай дзейнасцю В. Іваноўскага на беларускай ніве. Так ці іначай ніводная з разгледжаных версій не рысуе сельска-анельскага вобраза.

Рыжскі мірны трактат выклікаў пастанаўленне В. Іваноўскага пакінуць палітычнае жыццё, што не памяшала аднак яму дзейнічаць у 30-х гадах у Польскім інстытуце нацыянальных спраў (стар. 89) і ў 1935—37 гадах быць кіраўніком вайсковай студыі пры варшаўскай Палітэхніцы, хоць ніводнай з гэтых установаў нельга адмовіць палітычнае значэнне, апрача навуковага ці дыдактычнага.

З версіяў на тэму прычын эвакуацыі В. Іваноўскага з Варшавы перад наступленнем Вермахта ў верасні 1939 г. аўтар выбраў найбольш, на яго думку, лагічную і аптымальную для беларускага дзеяча, якая паходзіць ад былога студэнта В. Іваноўскага В. Чэрвінскага, якому В. Іваноўскі заявіў, што едзе будаваць Беларусь.

Канцэпцыя В. Іваноўскага адносна будовы Беларусі на асновах федэрацыі з Польшчай (стар. 108) з аднаго боку, а з другога змаганне палякаў за рэстытуцыю Рэчыпаспалітай у даваенных граніцах (стар. 114, 123, 124) стварылі стан варожасці з беларускім рухам, мэтай якога было адраджэнне беларускай дзяржавы на тэрыторыі ўключна з так званай Заходняй Беларуссю.

Спробы беларутэнізацыі з 1942 г. адміністрацыі, культурнага і канфесійнага жыцця на акупаванай Беларусі выклікалі бескампрамісную элімінацыю кожнай праявы беларускасці польскімі палітычнымі і ўзброенымі групоўкамі на абшарах іх дзеяння.

Камендант АК Януш Праўдзіц-Шляскі прызнаўся да забойства каля 300 „здраднікаў і прадажнікаў”. Крыптанім „ноч і дзень Бартламея” мела абазначаць безупыннае знішчанне гэтых „здраднікаў”. (Сканцэнтраваныя ў тадышняй Лідскай акрузе сілы АК дзейнічалі практычна без перашкодаў). На абшарах абмежаваных магчымасцяў, напрыклад, у Стоўпцах і ваколіцах АК нішчыла сваіх праціўнікаў, быццам бы камуністаў, у паразуменні з акупантамі. Так, напрыклад, у адной толькі акцыі АК выдала немцам на расстрэл 80 чалавек; „выпадкаў розных было даволі многа”, — сцвярджае Я. Праўдзіц, — а польскія камуністы „сядзелі ціха”, — дадае ён („Nowogródczyzna w walce 1940—45”, стар. 66, 67, 93). Кім былі тыя „здраднікі” сведчыць С. Р. („Беларуская думка” н-р 1, 1960 г.), які запісаў, што толькі ў 2-х воласцях: белагрудскай і беліцкай палякі забілі 100 беларусаў: солтысаў, войтаў, настаўнікаў, урадоўцаў і іх сем’і. Апрача таго там жа С. Р. і міравы суддзя В. Я. (інфармацыя з машынапісу) падаюць вядомыя ім асабіста выпадкі расстрэлаў альбо замардавання жаўнерамі АК беларусаў у Васілішскім і Шчучынскім паветах, якіх называюць па прозвішчах, у тым ліку 6 настаўнікаў, 10 працаўнікоў павятовых і валасных управаў, 3 школьных інспектараў, святара з жонкаю, 2 паліцэйскіх, 17 сялян-адшчапенцаў (што запісаліся беларусамі), 8 дзеячаў Беларускай народнай самапомачы, што збіралі і высылалі ў галадаючы Менск харчовыя прадукты. Я. Праўдзіц падае (там жа стар. 77) як прыклад працы яго экзекутараў забіццё 20.07.1943 г. у Васілішках „шэфа беларускага СД”. Тым шэфам, паводле ўспамянутага вышэй С. Р., быў адкамандзіраваны з Менска на пасаду старшыні павятовай управы ў Васілішкі Л. Маракоў, якога застрэлілі разам з яго сябрам Ю. Саковічам, што меў працаваць у БНС (аб чым Я. Праўдзіц прамаўчаў). Застрэлілі іх у выніку інфармацыі разведкі АК. Ніхто з беларусаў у Васілішках яшчэ не ведаў аб іх назначэнні — піша С. Р.

Дарэчы, трэба напомніць, што бурмістр Менска В. Іваноўскі зарганізаваў разведцы АК базу ў Менску, забяспечваючы яе рэзідэнтам Гражыне Ліпінскай і Віктару Буткевічу прыпынак і працу на кіраўнічых пасадах, а Самуэлю Кастравіцкаму перадаў важныя інфармацыі (стар. 117, 118, 122). Аправізацыю Менска даручыў Баляславу Беруту.

У вышэй апісаных умовах спаралізавання беларускага руху ў абшарах кантраляваных Арміяй Краёвай і біялагічнага вынішчання, неабавязкова вайсковымі метадамі, яго ўдзельнікаў і сімпатыкаў, размовы аб федэрацыі паказваюцца беспрадметнымі, так як і ўяўныя лістоўкі аб паяднанні з беларусамі (стар. 123). Партыя беларускіх нацыяналістаў, без людской і матэрыяльнай базы, інвігіляваная разведкай АК, не спаўняла асноўных прынцыпаў партнёрства ў перагаворах з польскім эміграцыйным кіраўніцтвам і, як відаць па ўсім, была ім ігнараваная.

З ацэнкай Ю. Туронка аб абыякавасці навукоўца В. Іваноўскага да ўзброенага змагання можна згадзіцца. Цяжка аднак выключыць уплыў на тое змаганне разведкі АК, якой ён стварыў базу ў Менску і паспяховасць яе дзеяння, асабліва ў барацьбе за „крэсы ўсходнія”.

Незалежна ад усяго В. Іваноўскі і на гэтым этапе сваёй дзейнасці даў доказы турботы за адраджэнне беларускай культуры, асветы і запісаўся ў гісторыі як абаронца беларускага народа ад рэпрэсій з боку паліцэйскай самаволі нямецкага акупанта (стар. 119—120), дзякуючы, галоўным чынам, сваім уплывам на гаўляйтэра Вільгельма Кубэ, што паказана ў кнізе адназначна.

У маім перакананні Ю. Туронак даказаў лаяльнасць В. Іваноўскага як грамадзяніна Рэчыпаспалітай і адначасна вернасць яго сваім юнацкім ідэям нацыянальнага адраджэння беларускага народа, перш за ўсё яго культуры, з якою злучыў яго лёс у маладосці.

Нельга не заўважыць, што напатканыя супярэчнасці між гэтымі дзвюма ідэямі прынеслі яму нямала расчараванняў, а то і ўнутранага разладу.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**





## ФАЛЬШ ШЫТЫ БЕЛЫМІ НІТКАМІ

Так можна назваць выказванні спадара Алеся Барскага ў яго чарговых публікацыях з цыкла "На мяжы" - "Беларускія капіталісты". Ён проста выдумлівае гэтых сялян, з якімі нібы вядзе гутарку. Гэтым ён крытыкуе сённяшнюю ўладу ў Польшчы і сее прапаганду супраць яе. Пры тым, сам застаецца ў цені і невінаваты, бо "гарою стаіць" за капіталізм.

Гэта ўсё толькі гульня! Папраўдзе Барскі плача за камунізмам, бо колькі ж змарнаваў ён у свой час паперы ў абарону яго. Хіба не помнім?

Шчыра кажучы, цяперашні польскі капіталізм штучны, фальшывы, а таксама скамунізаваны. Пляваў я на яго, бо яму далёка да праўдзівага заходняга капіталізму. І гэта праўда, што сяляне лаюць яго і шкадуюць камунізм. Але такую камуну, якая была ў нас, можна шкадаваць. Я цікавы, як бы сяляне шкадавалі камуну, каб у нас была яна савецкая, а па вёсках спрэс былі адны калгасы ды саўгасы.

А Барскі ў восьмай частцы "Беларускіх капіталістаў" /"Ніва" н-р 35/ гутарыць з выдуманым сямідзесяцігадовым селянінам. Гэты "чалавек" помніць як Барскі ўжо за Герэка гаварыў, што ў Польшчы мусяць быць апазіцыйныя партыі і так далей, і гэтаму падобнае. Або, кажа гэты селянін, што нейкі Бабёр у тэлевізары расказвае пра 1600 адкрытых афёр і ніводнага суда ў сувязі з імі не зрабілі. От табе і капіталізм, от табе і справядлівасць...

Альбо: не зааралі нават кавалка зямлі. Усё аблогам навокал ляжыць, трава да кален парасла ды кветачкі цвітуць...

Паважаны Барскі! Калі ілгаць, дык гладка. Бо падумайце, пры чым тут капіталізм? Ці ж капіталізм вінаваты, што адкрылі 1600 афёр і не правялі ніводнага суда? Для гэтага ёсць адпаведныя органы, паліцыя, пракуратура, прэтэнзіі ў такіх справах трэба кіраваць да іх. Важнае ўжо тое, што гэтыя афёры адкрылі, бо калісьці ўсё затаілі б, не падалі б да публічнага ведама.

А тое, што ляжаць аблогі, дык часамі, калі пясок-выдма, лепш такой зямлі і не засяваць, бо прынясе яна селяніну адны клопаты і страты. А такой зямлі ў нас па самыя самыя вушы. Затое, колькі ж маем на вёсках маладых гаспадароў? Пішучы, трэба ўсё ўлічваць.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




## НАРОДАТВОРЧЫ ПРАЦЭС РАЗВІВАЕЦЦА

У апошніх гадах па тэрыторыі Беласточчыны назіраецца надзвычайнае народатворчае ажыўленне. З беларускага асяроддзя, у якім апрача беларусаў чулася пра "тутэйшых", "рускіх", "праваслаўных", выраслі новыя групы - "праваслаўных палякаў" і "ўкраінцаў північнага Підляша", а дзеячы Брацтва і хлопцы Адзіевіча ствараюць нейкі саюз расейскіх патрыётаў. І няхай хтосьці скажа цяпер, што беларусы малаактыўныя і не ўмеюць нічога арганізаваць.

На маю думку гэта не канец цудатворнага размнажэння народаў на нашай тэрыторыі. Калі на Беларусі некалькі гадоў таму назад паявіліся яцвягі, дык чаму ж іх не можа быць паміж Бугам і Нарваю. Палескія яцвягі пісалі нават у сваёй газетцы "Збудіньне" пра існаванне тут магутнай групы іх суродзічаў, страшэнна праследаваных скамунізаванымі беларусамі. Пасля развалу універсальнай імперыі КДБ разлезлася дзесьці і яцвяжская нацыя па Палессі. Але на Беласточчыне асталіся ўсе фактары, якія спрыяюць узніканню новых нацыяў. Пару разоў прышлося ўжо мне чытаць пра палавецкія плямёны, паселеныя валынскімі князямі на поўнач ад Буга ў XIII стагоддзі. Варта задумацца, ці нашыя круглатварыя Валькі, Веркі ці Колькі не ёсць пашчадкамі гэтых цюркскіх плямёнаў. Пару энергічных палоўцаў - калі б такія знайшліся - маглі б зараз сабраць некалькі тысяч подпісаў, дастаць час у радыё і далей усё пайшло б вельмі проста. Хопіць паставіць нейкага шызафрэніка за мікрафонам, а ён ужо дакажа, хто з’яўляецца карэнным жыхарам Беласточчыны, ну і зразумела дзеля якой мэты цар, Сталін ці іншыя камуністы стварылі тут беларусаў.

Хтосьці можа спытаць, як сабраць тыя пару тысяч подпісаў. Нічога больш простага. Трэба толькі ісці да жыхароў і пытаць: хочаце ў радыё часцей слухаць "нашыя палавецкія песні", напрыклад "Чараўніцу", "Распрагайце хлопцы коней"? Не знаю нікога, хто адмовіцца палажыць свой подпіс за такую ідэю. Год таму прышлося мне збіраць подпісы ў падтрымку кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта. У адной вёсцы аказалася, што я ўжо тут пяты па чарзе з нашай лістай.

"Былі тут ужэ перад вамі, - гаварылі людзі, - усе по-нашому говорат, мы нікому не адказвалі, але чорт там поймэ на каго голосоваті. Калі хто пойдэ, то толькі на Цімошэвіча." Пацікавіўся я, за кім падпісаліся жыхары тае вёскі. Эмісары Цімашэвіча яшчэ сюды не даехалі. Былі гэта людзі з праваслаўнага камітэта, ПСЛ /Польске стронніцтво людовэ/, Салідарнасці працы і... Выбарчай каталіцкай акцыі - усім падпісалі.

Без праблемы можна даказаць існаванне тут яцвяжскай ці нейкай мангольскай нацыі. Праз два, тры гады працы не адзін дзядзька з Трасцянкі ці Кляшчэляў будзе мог сказаць: "Якая прыгожая наша яцвяжская мова!"

**ІГНАТ АЗІЯТОВІЧ**

# ЛЯЧЫЦЬ У ІМЯ ВЫШНЯГА

— Калі я была маленькая, адна бабка сказала: „Гэтая дзяўчынка будзе ісцэляць”. І цэлае жыццё я ішла да гэтага. Кончыла курс энергатэрапеўтаў, але гэта Космас пасвячае на ісцэленне і дае права лячыць, — кажа **Ларыса Дуброўская**.

*— Цяпер неяк шмат экстрасэнсаў, урачоў душы і цела. Людзі захапляюцца незвычайным, анамальным?*

— Давайце паглядзім адзін аднаму ў вочы, адчуем цяпло нашых сэрцаў і рук, разбяромся разам з вамі. Спрабуйма зразумець, хто такія экстрасэнсы. Усё больш паяўляецца інфармацый аб экстрасэнсах, гіпнатызёрах, сугестолагах. Меў рацыю выдатны вучоны — геабіёлаг Аляксандр Чыжэўскі, калі гаварыў: „Навуковае ўсё, што мы трымаем у руках; ненавуковае — усё, чаго мы не разумеем”. Мы не ў вакууме, на нашы паводзіны, настрой, здароўе аказваюць уплыў акружаючыя нас планеты, зоркі, космас. Наш прабацька — Космас, а Зямля — наш агульны дом.

*— Мяне цікавіла біядыягностыка і аднаўленне здароўя. Гэтыя пытанні нельга разглядаць у адарванні ад прыроды ў цэлым. Свет адзіны і недзялімы. Не ўсе гэта бачаць. А ёсць людзі, якія бачаць не бачанае іншым.*

— Ёсць арганізмы настроеныя на такім узроўні. Ёсць людзі, якія бачаць ауру, ці наскрозь другіх людзей. Аура гэта ўнутраны свет чалавека. Мае свой колер. Калі чалавек блізкі да боскага свету і на высокім інтэлектуальным узроўні, яго аура мае жоўты колер. Чалавек, які жыве нізкімі праблемамі, матэрыялізмам, мае ауру колеру чырвонага, аранжавага альбо чорнага. Аура людзей на высокім духоўным узроўні — ад светлазялёнай да ярказалацістай.

*— Розныя асобы, розныя ауры, розныя целы?..*

— А так. Першае — гэта фізічнае. Другое — эфірнае, якое ўтрымлівае фізічнае ў канфігурацыі; яно пэўны час пасля смерці чалавека таксама раскладаецца (хаця гавораць: „вось я яго бачыў, прыходзіў”.) Трэцяе –гэта астральная абалонка цела. Астральнае цела пакідае нас ноччу, цераз чорны тунель, кропку, якую маем на верху галавы. У снах — вось сапраўднае нашае жыццё на тонкім астральным узроўні. А ёсць яшчэ ментальнае цела — месца волі, розуму і шляхетнай мыслі.

*— Вы — дыпламаваны доктар народнай медыцыны вышэйшай спецыялізацыі. Лечыце людзей. Гэтыя веды патрэбныя для вас, каб з добрым вынікам пазбавіць ад пакут людзей. Што мае значэнне ў лячэнні?*

— Вялікую ролю іграе тое, ці чалавек жыве сумленна. Вера ў Бога павінна быць у сэрцы. Чалавек можа казаць: „Вось я хаджу штотыдзень у царкву”, а толькі як выйдзе, пачынае гаварыць брыдкімі словамі і думкі ў яго брудныя, і ўчынкі кепскія. А ведаем старэнькія асобы з хутароў, якія не ў сіле хадзіць у царкву, а ведаюць многа, бо Бога бачаць сэрцам і жывуць сумленна... Колер ауры залежыць і ад таго, ці чалавек праведны, сумленны, ці думкі ў яго чыстыя. Мысль заўсёды магнітызіруецца, і яна матэрыяльная! Яна мацней за словы і дзеянні! Думкай можна нават забіць чалавека. Калі хтосьці хоча зашкодзіць веруючаму, сумленнаму чалавеку, то ўсё бумерангам вернецца да яго!

*— Ці вы адразу бачылі такія таемныя, невідочныя для іншых з'явы?*

— Гэта прыйшло не адразу. Гэта магчыма тады, калі ў чалавеку заканчваецца энергетычнае фарміраванне, фактычна ў 30 гадоў. Усе, хто **бачаць**, вельмі балюча адчувалі гэты працэс. Жывуць як у другім вымярэнні, бачаць духаў. Ідзе ў гэты момант барацьба чорных і белых сіл; якая сіла перацягне. І толькі вера сэрцам у Бога дапамагае вызваліцца ад чорных сіл. Бачым усё гэта! У многіх наступае і яснаслышанне. Гэта ідзе інфармацыя з Космаса. Кожны можа нешта такое праслядзіць: калі яшчэ не спім, не снім, а бачым ні то сон, ні нешта накшталт сну, але гэтую інфармацыю не кожны адчытвае. Калі ўжо нешта здарыцца, тады людзі ўспамінаюць, што ў снах і знаках ім гэта ўсё перадавалася. Толькі трэба кожнаму чалавеку прыслухацца да сябе. Кожны чалавек, як ніхто, павінен ведаць сябе.

*— А як акрэсліць можна чалавека?*

— Увесь унутраны свет чалавека і яго паводзіны напісаны на яго твары. Пасля 35 гадоў твар кажа праўду, а асаблівая роля — у вачэй, люстэрка чалавека. Праз вочы ідзе вялікі энергетычны патэнцыял. Калі чалавек добры, ён можа сам, не ведаючы, лячыць сваімі вачыма.

*— Што павінен яшчэ ведаць біяэнергатэрапеўт, каб пачаць лячыць?*

— Між іншым, астралогію. Для кожнага знака Задыяка ёсць свая ікона. Для знакаў Вады (Скарпіён, Рыбы, Рак) — „Всех скорбящих радости”. Для Паветра (Блізняты, Шалі, Вадалей) — Неапаленая Купіна. Для Зямлі (Дзева, Цялец, Казярог) — ікона Серафіма Сароўскага (гэта праведнік, які направіў сваю энергетыку на Фаворскі свет). Для Агня (Леў, Баран, Стралец) — ікона Міколы Угодніка.

*— Але як жа бачыць усё такі лекар, як вы?*

— Адкрываецца „трэцяе вока”, вось тут, дзе шышкавідная залоза. Тады бачым ауру, нутро людзей.

*— А як пачалося ўсё гэта з вамі?*

— Я не ведала, але адчувала. Пачалося гэта ў маіх 28 гадоў. Я начамі прасыпалася, і нешта бачыла. Думала: „здаецца мне”. І чула галасы (а першы раз у мяне было яснаслышанне ў 14 гадоў). Начамі я не магла спаць (ад 12 да 4 раніцы), мая нервовая сістэма „села”. Калі я прыязджала на Беласточчыну працаваць з дзецьмі, мае знаёмыя запрапанавалі мне ахрысціцца. Я і сама прыйшла да Бога. Бацюшка з Васількова ахрысціў мяне ў дзень Веры, Надзеі і Любові.

Нічога ў жыцці выпадковага няма і не бывае. Мы прыходзім на Зямлю ўжо са сваёй праграмай. У чалавека ёсць права выбару, але калі ён няправільна выбярэ, пяройдзе цяжкі вопыт, але ўсё роўна будзе так, як павінна быць. Я напісала верш:

Здаецца, што імя далі бацькі,
Яно прыходзіць зверху
разам з намі,
Каб выканаць сваю праграму
і кады
І зноў пайсці ў свае
крамешны далі.

*— Вы — біяэнергатэрапеўт-сугестолаг.*

— Сугестыўны ўзровень — гэта на мысленным узроўні. Закладаецца ў мозг праграма на выздараўленне, механізм лячэння. На дыягназ ідзе гадзіна. Каб даць поўнае лячэнне арганізму, не толькі аднаму, хвораму, органу. А пакуль лячыць ад хвароб цела, трэба лячыць душу. Я не бяруся лячыць чалавека не веруючага, а з верай, якая ідзе ад сэрца.

*— Хрыстос казаў: „Твая вера цябе вылечыла. Устань, ідзі!”*

— Пакуль прыступіць да лячэння іншых, біяэнергатэрапеўт павінен сам быць чыстым і веруючым. А ёсць лекары брудныя: п'юць, кураць. Я нават не ем мяса. Неабходная чыстая энергетыка.

*— Як дыягназуеце?*

— Дыягназую рукой, правяраю біялакацыйнай рамкай. Потым заплюшчваю вочы і бачу ўнутраныя органы як пад рэнтгенам, у чорна-белых колерах. І бачу ауру кожнага чалавека. А ўвогуле, каб адамкнуць сваё „трэцяе вока”, трэба вялікая канцэнтрацыя.

*— Ці бярэцеся вылечыць усе хваробы і ў кожнай стадыі?*

— Магу адразу сказаць, ці хвароба паддасца лячэнню. Ёсць хваробы застарэлыя, якіх лепш не чапаць, каб не зашкодзіць; там толькі аперацыя паможа. Магу разбіць жоўцевыя і нырачныя камні, лячу пячонку, падстраўнікавую залозу (тшустку), кішкі, страўнік, ныркі, мачавы пухір, затокі, першыя стадыі запалення шчытападобнай залозы (тарчыцы), ад насмарку, мігрэні, нервіцы. Вызваляю ад „урокаў” (памажы мне Божа) – „чорнай магіі”, злога вока, „порчы”. Чорную магію адбіць можна толькі дабром. Сам прыход хворага да энергатэрапеўта можа нічога не даць, калі хворы потым не стасуецца да наказаў: не есць і не піць недазволенага. Лечыць таксама голад, ачышчаючы арганізм. Ёсць хваробы „кармічныя”; такія прадказваюць чалавеку, што кепска робіць і думае ў жыцці. Для вылячэння ад іх трэба чалавеку самому духоўна пераглянуць сваё жыццё. Кожны чалавек павінен ведаць, што за ўсё будзе расплата — за думкі, за словы, за справы, якія ўчыніў. А самае галоўнае — прыйсці да Бога свядомым: прыняць Яго ў сэрца. Не забудзь пра гэта перадаць людзям.

*— Дзякую за размову і суцяшэнне людзям. Калі нехта з нашых чытачоў хоча сустрэцца з Ларысай Дуброўскай, няхай скантактуецца з намі, рэдакцыяй „Нівы”.*

**Размаўляла МІРА ЛУКША**

**ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ!**

Калі вы не паспелі падпісацца на „Ніву” на І квартал 1993 года, можаце гэта яшчэ зрабіць у нашай рэдакцыі. Рэдакцыйная падпіска ў краіне (разам з пастаўкай па пошце) каштуе 52000 злотых. Грошы просім пералічваць на рахунак: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA I Oddział Białystok, 370406-207917-132.




**BIBLIOGRAFIA**
**dotycząca ks. Jerzego Szurbaka dyrygenta Zespołu Muzyki Cerkiewnej przy Warszawskiej Operze Kameralnej w Warszawie**


Lewandowski Marian: Muzyka na antenie. - Radio i Telewizja RTV 1973 nr 26 s. 9.

/wj/: Śpiewy starocerkiewne. - *Ruch muzyczny* 1973 nr 6

Czajkowska Z.: Koncert chóru cerkwi wolskiej. W kościele ewangelickim. - *Słowo Powszechne* 13.02.1973 nr 37

Kwiecińska Zofia: "Słowo o wyprawie Igora". Teatr. - *Trybuna Ludu* 3.03.1973 r.

Podkańska Anna: Na muzycznym moście. X Festiwal Pieśni Cerkiewnej. - *Głos Szczeciński* 26.06.1975 r.

Zwierciadło transcendencji. Muzyka religijna. - *Za i Przeciw* 13.07.1975 r. nr 28/955/

/Dziesiąty/ X festiwal Pieśni Cerkiewnej. - *Życie Muzyczne* 1975 nr 9.

Podkańska Anna: Możliwości. Muzyczne refleksje. - *Głos Szczeciński* 9.12.1976 r. nr 280/9662/

Iżykowska-Mironowicz Anna: Dni Muzyki Organowej i Oratoryjnej. Śpiewy cerkiewne. - *Głos Robotniczy*, Łódź 24.09.1976 nr 220.

Panek Wacław: Notatnik płytowy. - *Kultura* 12.12.1976 r.

/lw/: Koncert muzyki cerkiewnej. - *Za i Przeciw* 25.04.1976 r., il.

Koncert duchovoj muzyki chora Cerkovnoj Muzyki Varšavskoj Kamernoj Opery. - *Cerkovnyj Vestnik* 1976 nr 7/9 s. 54-55.

Wysocki Stefan: Życzenia i marzenia. Tydzień muzyczny. - *Słowo Powszechne* 15.04.1976 r.

/eo/: Muzyka cerkiewna w Filharmonii Narodowej. - *Ruch Muzyczny* 8.05.1977 r. nr 10.

/SDr/: Zespół Muzyki Cerkiewnej odnosi sukcesy w kraju i za granicą. - *Kurier Polski* 14.12.1974 r.

Pociej B.: Muzyka cerkiewna. "Polskie Nagrania". - *Ruch Muzyczny* 3.07.1977 r.

Hanisz Bronisław: Koncert Muzyki Cerkiewnej. - *Za i Przeciw* 29.05.1977 r., il.

/SDr/: Renesans Muzyki Cerkiewnej. - Kurier Polski 11.07.1977 r., il.

Wildbolz Edward: Chór Warszawskiej Katedry Prawosławnej w Szwajcarii. - *Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego* 1979 nr 4 s. 56-57.

Parzyński Jerzy: Dni Muzyki Organowej - rozpoczęte. - *Echo Krakowa* 17.04.1978 r.

Walaciński Adam: Romantycy z perkusją. Dni Muzyki Organowej. - *Dziennik Polski,* Kraków 18.04.1978 r. nr 88.

Jędrzejczyk Olgierd: Muzyka organowa w starym Krakowie. - *Echo Krakowa* 1978 r.

/g/: Ostatnie dni pobytu B. Grahama w Polsce. - *Słowo Powszechne* 16.10.1978 r.

/jw/: Koncert Muzyki Cerkiewnej. - *Ruch Muzyczny* 17.12.1978 r.

Czapczak Marek: W kręgu kultury religijnej. Muzyka cerkiewna. - *Za i Przeciw* 24.09.1978 r. nr 39/1122/, il.

Witkowska Jadwiga: Tym razem o koncertach kameralnych. XIX Festiwal Muzyki Polskiej. - *Gazeta Pomorska* 15.09.1981 r. nr /?/ s. 4.

/SDr/: Warszawski Zespół Muzyki Cerkiewnej oklaskiwany w kraju i za granicą. - *Kurier Polski* 16.06.1981 r., il.

/bd/: Polacy na festiwalu w Sztokholmie. - *Życie Warszawy* 10.09.1982 r.

/aw/: Nicolai Gedda tenor wszechstronny. - *Życie Warszawy* 28.12.1982 r.

M. K.: Nicolai Gedda dzieciom w Laskach. - *Express Wieczorny* 29.12.1982 r. nr 238/11160/.

/SDr/: Spotkanie z Nicolaiem Geddą. - *Kurier Polski* 20.12.1982 r. nr 249, foto.

Pacewicz Olga, Grün Jacek: Na cztery głosy. - *Gazeta Współczesna* 21-23.05.1982 r. nr 100/9618/ s. 2, il.

Sobis Edmund: Muzyka Cerkiewna. - *Myśl Społeczna* 17.04.1983 r. nr 16 s. 7.

/kid/: XXI Zielonogórskie Spotkania Muzyczne. - *Gazeta Lubuska* 5.10.1983 r. nr 235/9775/ s. 1.

Danilczuk Andrzej: Echa dawnej muzyki. Tradycja. - *Gazeta Współczesna* 18.11.1983 r. nr 268/10044/ s. 6, il.

Piskorz Paweł: Zespół Muzyki Cerkiewnej zaprasza. - *Przegląd Koniński* 16.01.1983 r. s. 7, il.

Podkańska Anna: Dwa muzyczne kręgi. Z Kamieńskiego festiwalu. - *Głos Szczeciński* 15.08.1983 r. nr 191.


*Працяг будзе*

## НОВАЯ ПЛЯБАНІЯ

22 лістапада г.г. у Міхалоўскім прыходзе адбылася важная ўрачыстасць у жыцці праваслаўнага грамадства. У гэты дзень быў пасвячаны новы прыхадскі дом, пабудаваны пры дапамозе мясцовых прыхаджан. Цяпер нашы святары будуць жыць у лепшых умовах. Дагэтуль адзін са свяшчэннікаў, а. Мікалай, жыў па прыватных кватэрах. У новую плябанію пераселіцца таксама ініцыятар пабудовы а. Ян Ярашук. Гэта дзякуючы яго актыўнасці і падтрымцы прыхаджан Міхалоўскі прыход мае чым пахваліцца. Ахвярнасць свяшчэннікаў і вернікаў заўважыў архіепіскап Сава, які ўдастоіў урачыстасць сваёй прысутнасцю і пасвяціў новы дом.

Многая лета Вам, а. Ян Ярашук!

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

# ПОДЗВІГ СКАРЫНЫ

*20 кастрычніка 1992 г. адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар Францішка Скарыны ў Падуанскім універсітэце. У святкаванні прысутнічаў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка; фрагменты яго выступлення прапануем увазе чытачоў "Нівы".*

**ШАНОЎНАЯ ГРАМАДА! ПАВАЖАНЫЯ СПАДАРЫНІ І СПАДАРЫ!**

Беларусы, як і ўсе народы свету, маюць сваіх выдатных сыноў. Фізічна адыходзячы ад нас у вечнасць, яны духоўна застаюцца з намі, сваім існаваннем, прыкладам жыцця, геніяльным яго прадбачаннем яднаюць жывую повязь пакаленняў, вечнасць і неўміручасць нацыянальнага духу, несмяротнасць народа. І ў гэтым - існасць жыцця. Яны - духоўныя правадыры і павадыры нацыі, яе гонар і сумленне, шчасце і радасць, надзея і неўтаймоўны боль яе. Пакуль будзе існаваць жыццё на зямлі, датуль сэрца кожнага беларуса будзе саграваць вечнае сонейка, імя якому - Францішак Скарына.

Хто ён і што было зробленага ім дзеля таго, каб назаўсёды застацца ў памяці народнай? /.../

Проста немагчыма ўявіць і паверыць у тое, што ўсё, зробленае ім, створана адным чалавекам. Можна дзякаваць лёсу, што ў сярэднявеччы не звязалі гэта з д'ябальскім уплывам і нечалавечай апантанасцю.

Але гэта быў сапраўдны подзвіг у імя нацыі, першы подзвіг на цярністым шляху нацыянальнага Адраджэння і ў той жа час першы прыклад нацыянальнага месіянства. Ён прыйшоў да свайго знясіленага народа, бо так было трэба. Прыйшоў час яго і час яго народа.

Гэта быў подзвіг, бо ён даў народу СЛОВА, роднае СЛОВА, дарагое для кожнага з нас СЛОВА. Як тут не ўспомніць Біблію: "І першым было Слова!" Яго пераклад Святога Пісання на беларускую мову - першы сярод усходнеславянскіх народаў і другі, пасля чэшскага, сярод сусветнага славянства. На небасхіле нашай нацыянальнай гісторыі золатам зіхаціць 6 жніўня 1517 года, калі ў Празе-Чэшскай Скарына выдаў першую кнігу на старабеларускай мове "Псалтыр", а ўвогуле менш чым за два гады "пусціў у свет" 22 кнігі Святога Пісання.

Гэта быў подзвіг, бо ён заклаў падмурак нашага гуманізму і талерантнасці, нашай павагі да іншых, значна большай, чым да саміх сябе. Прычым у той час, калі ў Еўропе вера ператварылася ў фанатызм, у сваю знішчальную процілегласць і змрочныя сполахі вогнішчаў аўтодафэ наводзілі жах на кволых духам і целам.

Гэта быў подзвіг, бо, як у чароўнай казцы, дзвюма-трыма кнігамі ЁН адчыніў дзверы і з цемры вывеў людзей на святло, увёў нас у агульналюдскую, агульнаеўрапейскую сям'ю, у пантэон гуманістычнай культуры нашага кантынента, заявіў аб праве беларускага народа на нацыянальна-культурнае вызначэнне.

Мы - еўрапейцы-аўтахтоны і спрадвеку жылі на сваёй зямлі, але паводзілі сябе даволі стрымана, нясмела азіраліся навокал, а тут адразу, адным махам, увайшлі ў агульнаеўрапейскі культурны працэс.

Гэта быў подзвіг, бо Скарына даў народу веды ў сямі навуках "вызваленых", такіх, як граматыка, логіка, рыторыка, фізіка, арыфметыка і геаметрыя, музыка, астраномія.

Гэта быў подзвіг, бо ён першы сярод беларусаў выступіў супроць братазабойства, за тое, каб нацыя, якую раздзіралі на рэлігійныя канфесіі, адчула сябе хоць на нейкі час адным жывым нацыянальным целам, адчула сябе адзіным народам, які потым ворагі на працягу нашай шматпакутнай гісторыі яшчэ не раз "жыўцом ірвалі на кускі" /Я. Купала/.

Такім чынам, веліч Скарыны, галоўны сэнс яго дзейнасці заключаецца ў тым, што, даўшы народу роднае слова ў звыклай для яго форме, стварыўшы сумесна з М. Гусоўскім падмурак нацыянальнай літаратуры эпохі Рэнесансу, даўшы "людзям паспалітым" самыя разнастайныя веды, ЁН па сутнасці ўдыхнуў у знясіленыя душы веру ў НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ, зрабіў усё, каб людзі нашы адчулі сябе НАРОДАМ, БЕЛАРУСАМІ.

У жыцці кожнага народа ідуць заўсёды поруч чорнае і белае, светлае і раднаснае, змрочнае і трагічнае. Так і ў жыцці чалавека, тым больш такога незвычайнага, як Скарына. /.../

Белае і чорнае... Подзвіг, трыумф і трагедыя. Як усё гэта характэрна для нашага шматпакутнага народа! Але нягледзячы на нясцерпныя выпрабаванні, войны, нацыянальныя здзекі з боку суседніх народаў, знішчэнне, здаецца, ушчэнт нацыянальнай культуры, ён выстаяў і перамог. Выстаяў дзякуючы таму, што на нацыянальным небасхіле заўсёды зіхацела нязгасная зорка Скарыны.

Сусветная слава сёння не грэе Францішка Скарыну, але яна патрэбна яго народу. Цяпер, як ніколі, калі мы ствараем незалежную дзяржаву, дзяржаву ва ўлонні Новай Еўропы, нам патрэбна такое нацыянальнае духоўнае апірышча, як ідэі і запаветы Скарыны.

Я мару пра тое, што некалі здзейсніцца амаль немагчымае: мы знойдзем святы прах Францішка Скарыны. Знойдзем і з гонарам перанясём у Нацыянальны Пантэон, які павінна мець кожная цывілізаваная нацыя. Перанясём туды ўсіх тых, хто з'яўляецца гонарам і сумленнем нацыі. Перанясём, каб ніколі не забываць пра продкаў, пра свае карані, пра сваю чалавечую годнасць, пра тое, што мы мацнеем як НАРОД.

Калі ў людзей ёсць такая мэта, такая мара, упэўнены, што яна павінна рана ці позна здзейсніцца. /.../

# СЯРОД ДУБІЦКІХ ШКОЛЬНІКАЎ...

... пабываў я 24 лістапада бягучага года. Настаўніца беларускай мовы Галіна Трашчотка наладзіла мне тут аўтарскую сустрэчу. Пры гэткай нагодзе я пабываў у класных залах і ў школьнай сталовай. Усе настаўнікі прынялі мяне як здаўна знаёмага калегу па прафесіі. Апрача салодкага пачастунку /піроўнае плюс кава/, у абедзенную пару запрасілі на абед. У школе мігам прайшло чатыры гадзіны і падсілкавацца было, што ні скажаш, вельмі сэнсоўна. Каб даехаць у Дубічы на дамоўлены час, я паснедаў пасля сёмай гадзіны раніцы. Па дарозе крыху я змёрз у сваім малым фіяце /у гэткага роду аўтамашынах слабое ацяпленне/. Дык я абедаў і хваліў кухарак, якія падрыхтавалі смачную ежу.

Але пара не пра сябе, а пра тое, чым жыве Падставовая школа ў Дубічах-Царкоўных. Тут займаецца 87 вучняў, апрача таго ёсць яшчэ так званы нулявы клас. Дзяцей вучыць дзесяць настаўнікаў. Ад двух гадоў дырэктарам школы з'яўляецца Юры Несцярук. У Дубічы школьны аўтобус давозіць вучняў са шматлікіх навакольных вёсак, між іншым з Руткі, Істока, Чэхаў-Арлянскіх, Вярстка, Вілюкоў, Старыны, Горнага і Круглага.

Урокі адбываюцца ў двух школьных будынках. Ёсць школьная сталовая, якая рыхтуе абеды для ўсіх ахвотных у ёй харчавацца. У школе ёсць бібілятэка, а ў ёй ажно дванаццаць тысяч кніжак, у тым ліку паўтары тысячы на рускай і беларускай мовах. Вядзе яе настаўніца польскай і рускай моваў Ірына Бобыля.

У школе стварылі этнаграфічны куточак. У ім ёсць між іншым маслабойка, гліняныя збаны, калаўроты, боты з дрэва ды ўсялякага роду пляцёнкі.

Ужо ў першыя асеннія месяцы вучні дубіцкай школы пабывалі на шматлікіх экскурсіях, між іншым у Бельску-Падляшскім, Беластоку і Супраслі. Каля вёскі Старына арганізоўвалі Свята печанай бульбы.

Неабходна адзначыць, што на працягу двух-трох гадоў вучні супольна з настаўнікамі наведалі самыя цікавыя мясціны ў нашай краіне. Найлепшым доказам на тое ёсць школьная хроніка, якую паказаў мне дырэктар школы, і ў якой вельмі багата фотаздымкаў. Школьная моладзь фатаграфавалася каля помнікаў старадаўнасці ажно ў васемнаццаці гарадах. Амаль усюды экскурсаводам быў дырэктар, вопытны гісторык. Экскурсіі праходзілі чатырма шляхамі, між іншым Надбужанскім шляхам, Шляхам рыцараў чорнага крыжа, Шляхам арліных гнёздаў.

Дубіцкія вучні ахвотна займаюцца спортам. У бегах з усялякімі натуральнымі перашкодамі вельмі добра зарэкамендавалі сябе Тамаш Скурскі і Марыюш Кароль з Дубічаў-Царкоўных, а таксама Агнешка Хурса з Тафілаўцаў. Было гэта на раённых спаборніцтвах. Урокі па фізкультуры вядзе настаўнік Уладзімір Місяюк.

У школе на працягу шасці гадоў дзеці вучыліся нямецкай мове. Заняткі вёў дырэктар Юры Несцярук.

І яшчэ пра адно. Вучні сёмага і восьмага класаў прынамсі раз у год наведваюць Гайнаўскі дом культуры. Сёлета таксама ездзілі туды з нагоды Свята Незалежнасці. 11 лістапада выступілі яны на сцэне з мастацкай часткай: песнямі і слоўна-музычным мантажом. На гэтага роду патрыятычна-выхаваўчае мерапрыемства запрасіў дырэктар ГДК Мікалай Бушко.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**



# КОНКУРС "Мільярды для вучняў!"

Fundacja Edukacyjna Przedsiębiorczości ogłasza konkurs dla uczniów szkół średnich na projekt rozwijania przedsiębiorczości w szkole. Za najlepsze wypracowania przewiduje się wysokie nagrody pieniężne o łącznej wartości 1 miliarda 800 milionów złotych.

Jury konkursu stanowią wybitni ekonomiści i ludzie business'u na czele z ministrem Janem Krzysztofem Bieleckim.

Рэдакцыя "Ніvы" заахвочвае вучняў і настаўнікаў прыняць удзел у конкурсе. Зацікаўленым прапануем конкурсныя працы дасылаць на адрас:

Łódź,
ul. Piotrkowska 86,
Fundacja Edukacyjna Przedsiębiorczości.

Інфармуем таксама, што ў рэдакцыі маем "Рэгламент конкурсу", і патэнцыяльныя ўдзельнікі могуць з ім у нас пазнаёміцца.

# "АТРАСІНЫ", "АТРАСІНЫ"

Якія яны будуць? Якія яны будуць? Гэтае пытанне не давала нам супакою з моманту, калі пачалася падрыхтоўка да гэтай імпрэзы. Значыць, з першых хвілін студэнцкага навучальнага года. Сведкам нашых бурлівых нарадаў, якія датычылі гэтага мерапрыемства, найчасцей быў невялікі пакой у студэнцкім інтэрнаце. У ім штодзень сустракалася некалькі асоб, якія ўзялі на сябе абавязак арганізаваць мерапрыемства. Як заўсёды, не абыйшлося без клопату - фінансавага і арганізацыйнага. Але супольным намаганнем шчасліва давялі мы справу да канца.

"Атрасіны" адбыліся і цяпер можам ужо запытаць адзін аднаго: "Як было?"

Кожны скажа пэўна што іншае. Для адных зала аказалася малаватаю, іншым не падыходзіў музычны калектыў, а яшчэ іншым - усё пасавала.

"Атрасіны" адбыліся згодна традыцыі - першакурснікі ўвайшлі ў круг сваіх старэйшых, дасведчаных сяброў. А мы, са свайго боку, зрабілі ўсё, каб няшчасныя першакурснікі да канца жыцця памяталі, што такое "Атрасіны" беларускіх студэнтаў.

У гэтым годзе арганізатары задумалі "Атрасіны" як цяжкую дарогу першакурсніка ў сталае жыццё студэнта. Прайшлі яны шматлікія выпрабаванні, якія мелі паказаць, ці могуць першакурснікі ўвайсці ў кола старэйшых БАСаўцаў. Некаторыя вельмі лёгка перанеслі ўсе нашы пробы, але былі і такія, якія прагна чакалі канца ўсіх гэтых "здзекаў". І тых і тых Бася апячатала сваёй зялёнай пячаткай - асабліва яна падыходзіла дзяўчатам. Шкада толькі, што так хутка яны паўцякалі, каб ачысціцца ад гэтага таўра.

Артыстычную частку закончыла прысяга і песня "Аксамітны летні вечар". Пасля іх - гулянка! Іграў калектыў, а студэнты танцавалі. У перапынках спявалі пад гітару. Але, як мы спявалі!?

Людзей на "Атрасіны" прышло шмат. Арганізатары нават крыху баяліся, ці зала іх памесціць. Што гэта аднак за "Атрасіны", калі ніхто нікому на нагу не наступіць! Гульня была першакласная - трэба мець не абы-якое здароўе, каб пратанцаваць усю ноч ды раніцай яшчэ ўсміхацца. Імпрэза закончылася а чацвертай раніцы. Датрывалі наймацнейшыя і, вядома, арганізатары. Яшчэ толькі ўпарадкаваць залу і... дадому. Спаць, спаць, а пазней... новыя планы. Новыя імпрэзы.

**АНЯ АДАМІК**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# АБСТРАКЦЫЯНІСТ З МЕНСКА

*Сусвет ёсць твор мастацтва. На кожным сваім этапе развіцця. Мастацтва, якое стварае чалавек, ёсць працяг гэтай мастацкастваральнай сілы прыроды.*

Так лічыць Ігар Кашкурэвіч, малады мастак з Менска, выстаўка карцін якога адкрылася 24 лістапада г.г. у Бюро мастацкіх выставак "Арсенал" у Беластоку.

На выстаўцы паказана каля трыццаці палотнаў абстрактнага жывапісу. Палотны пакрытыя каляровымі палосамі фарбы, накладанай у асноўным гумовым валікам. Выклікаюць яны асацыяцыі з рытмамі прыроды, гарадской архітэктуры, а нават з - на болей адцягненым узроўні - з музычнымі кампазіцыямі. Валянцін Сельвясюк, аўтар тэксту пра мастака ў каталозе выстаўкі піша так: *Кампазіцыі Кашкурэвіча зьдзяйсняюцца ў шматлікіх сэквэнцыях. Некаторыя характарызуюцца выразным рытмам. Іншыя - пераходам ад высокіх да нізкіх тонаў. Яшчэ іншыя адзначаюцца танаваньнем колераў і праніканьнем у сфэрычнасьць кшталтаў. Сэквэнцыя ўяўляе сабою пэўную цэласнасьць, пэўную закончанасьць. На думку прыходзіць слова "кампазыцыя", якое адразу выклікае асацыяцыю з музыкай.*

Ігар Кашкурэвіч тлумачыць сваю манеру малявання наступным чынам: *Чаму карыстаюся валікам пры накладанні фарбы? Таму, што маю дачыненне з колам, з рухам па коле. Рух такі, характэрны для працэсаў і з'яваў у Сусвеце, вызначаецца сваёй геаметрычнай паўтаральнасцю, але ў фізічным сэнсе ён ніколі не з'яўляецца тоесным з папярэднімі этапамі. Тое самае і з маляваннем валікам - як нейкае наследаванне і працяг мастацкастваральнага працэсу ў Сусвеце.*

Мастак прызнае, што ў працэсе стварання карцін невялікая доля адведзеная папярэдняй зададзенасці /хіба што ў калярыстыцы/. Стварэнне карціны ёсць працэс дынамічны, які сам аўтар называе "эстэтычным рухам часу". Канчатковы вынік - "стан закончаны" - з'яўляецца сумай эстэтычна-фізічнага руху: уяўлення і волі мастака ды матэрыяльнай прылады для накладання фарбы.

Калі гаварыць аб папярэдніках, сам Кашкурэвіч кажа, што вучыўся ад айца супрэматызму Казіміра Малевіча - не канкрэтных мастацкіх вырашэнняў, а якраз такога "татальнага" падыходу да праблемы жывапісу.

Беластоцкая выстаўка Ігара Кашкурэвіча будзе адкрыта да 13 снежня, а потым паедзе ў Варшаву, у даволі прэстыжную галерэю Саюза польскіх мастакоў на вуліцы Мазавецкай. Паказ карцінаў Кашкурэвіча ў Польшчы - гэта якраз вынік супрацоўніцтва беластоцкай і варшаўскай галерэяў. Фінансавую дапамогу аказала Міністэрства культуры і мастацтва /арганізацыя выстаўкі і выданне каталогу/ ды фірма "Амега" з Бельска /сфінансаванне пабыўкі мастака/. Куратарам выстаўкі з'яўляецца спадарыня Магдалена Гадлеўская-Сіверская, дзякуючы ахвярнай і самаадданай працы якой выстаўка сталася прыкметнай культурнай з'явай. Адзначыць трэба і дыхтоўна выдадзены каталог выстаўкі з каляровымі рэпрадукцыямі працаў мастака, які надрукаваны на дзвюх мовах - англійскай і польскай - з беларускай укладкай. Такое ў нашым беластоцкім жыцці здараецца надзвычай рэдка.

**ЯН МАКСІМЮК**



*Ігар Кашкурэвіч у Беластоку.* **Фота З. Лянкевіча**

# У СПРАВЕ ГІМНА БЕЛАРУСІ

## Мой выбар: „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“

„Ніва“ ўжо інфармавала, што ў Рэспубліцы Беларусь у апошні час разглядаецца справа выбару дзяржаўнага гімна. Напомню, што паўгода таму назад была створана прафесійная камісія ў галіне паэтычнага слова да кампазіцыі, якая вылучыла сем песенна-музычных твораў на ўсенароднае абмеркаванне. 1 снежня быў тэрмінам заканчэння паралельнага з гэтым конкурсу на стварэнне гімна з новымі словамі і музыкай.

Пакуль разгляд і конкурс не далі канчатковага выніку, хачу выказаць сваё меркаванне наконт музычнага сімвала Беларусі. Мне здаецца, што на гімн найбольш прэтэндуе „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“ на словы Макара Краўцова. Мілагучная мелодыя, патрыятычная натхнёнасць у сваім паэтычным змесце, гістарычная ўжо роля гімна ў беларускіх абшчынах на эміграцыі — гэта галоўныя прыкметы гэтага твора. Таму якраз сёння хочацца, каб мы, беларусы Беласточчыны, далучыліся да голасу беларусаў з заходняга Вольнага свету ды... спадзяваліся на тое, што гімнам незалежнай Беларусі ўсё-такі стане „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“

У сапраўднасці, гэты эміграцыйны гімн на Беласточчыне малавядомы. Неафіцыйным гімнам здаўна ў нас была песня „Люблю наш край...“ на словы паэтэсы Канстанцыі Буйла. Потым ужо, калі многія прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы наладзілі сувязь з эміграцыяй і пабачылі як яна захоўвае і прапагандуе ўсё роднае, упершыню якраз адтуль прыбыла да нас уся беларуская нацыянальная сімволіка з бел-чырвона-белым сцягам на чале. Па-мойму, аднак, такія патрыятычныя песні як „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“, „Магутны Божа“ ці „Пагоня“ ўсё яшчэ патрабуюць шырэйшай папулярызацыі сярод беларусаў у Польшчы, у тым ліку сярод школьнай і студэнцкай моладзі. Добра будзе, калі гэтым зоймуцца Беларуская рэдакцыя Радыёвяшчання ў Беластоку, наша меншасная прэса, песенныя калектывы і школы.

Чытачам тыднёвіка „Ніва“ належыцца яшчэ хаця б крыху слоў пра аўтара песні „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“, тым больш, што быў ён мучаны і загінуў у Беластоку. Лёс Макара Краўцова з'яўляецца прыкладам лёсу многіх нашых беларускіх патрыётаў, якія змагаліся за гонар народа ды незалежнасць роднага краю, а месцазнаходжанне іх магіл... хіба ўжо назаўсёды застанецца белымі плямамі.

Паэт-нашанівец Макар Краўцоў (сапраўднае прозвішча Макар Мацвеевіч Касцевіч) нарадзіўся ў чэрвені 1890 года ў вёсцы Баброўня, што над рэчкай Котрай на Скідальшчыне (на ўсход ад Гародні) у заможнай сялянскай сям'і. З ранняга дзяцінства хлопца вабілі кніжкі. Вучыўся ён у Галавацкай царкоўна-прыхадской школе, а затым паступіў у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Школы гэтай аднак не закончыў, бо ў 1915 годзе прызвалі яго ў царскую армію і скіравалі на Паўночна-Заходні фронт. Сям'я Касцевічаў выехала ў бежанства ў Расею ў Казанскую губерню. Там бацькі Мацвей і Марыя хутка і памерлі. У 1922 годзе тры Макаравы браты вярнуліся на Бацькаўшчыну, падзялілі сваю зямлю ў Баброўні і пачалі гаспадарыць.

Макар пасля арміі падаўся ў Вільню, уладкаваўся на работу ды ажаніўся. Сярод землякоў праводзіў ён асветніцкую дзейнасць, арганізаваў вечарыны з народнымі песнямі, ставіў спектаклі, так званыя „камедыйкі“, на якіх выступаў і чытаў на беларускай мове вершы, хоць такія сходкі забараняла польская паліцыя. Да Макара прыходзілі знаёмыя яму настаўнікі, якія стварылі гурток мастацкай самадзейнасці. Усё гэта ўплывала на нацыянальную самасвядомасць многіх беларусаў у Вільні, у тым ліку і на будучага паэта Міхася Васілька, якога сапраўднае прозвішча было таксама Касцевіч (Міхась Касцевіч).

Сам Макар пісаў вершы, празаічныя творы, рабіў пераклады з іншых моў на беларускую. Супрацоўнічаў з беларускімі газетамі (пераважна з „Нашай нівай“), часопісамі, рознымі віленскімі выдавецтвамі. Песня „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“ на Віленшчыне і Гарадзеншчыне паўсюдна была вядома пад загалоўкам „Ваяцкі гімн“.

У перыяд „санацыі“ Макара Краўцова арыштавалі і пасадзілі ў турму. Пасля верасня 1939 года лёс яго склаўся трагічна. Паводле ўспамінаў жонкі Ганны Станіславаўны, ноччу ў кватэру паэта ўварваліся чырвонаармейцы, перавярнулі ўсе кніжкі і паперы, а потым павялі з сабой Макара Мацвеевіча... Паводле ўжо слоў чалавека, які разам з Макарам Краўцовым сядзеў у турме ў Беластоку, аўтар гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“ быў закатаваны падчас допытаў у турме. Дзе ён пахаваны, пакуль невядома.

**ЮРКА БАЕНА**

## У ПАМЯЦЬ ГЕНІЮШАЎ

22 лістапада 1992 г. "Белавежа" правяла літаратурны семінар, прысвечаны адзначэнні выдання кніжкі "Маці і сын" /аб ёй мы пісалі ў н-ры 38/ Ларысы і Юркі Геніюшаў. Присутныя на семінары Тацццяна і Сакрат Яновічы, Ада Чачуга, Віктар Швед і Ян Чыквін падзяліліся ўспамінамі аб Юрку Геніюшу ды аб пабыўцы Ларысы Геніюш у 1967 г. у Польшчы. Вандроўны тэатр "Балаган", што працуе пад кіраўніцтвам Янкі Морданя, прадставіў паэтычны мантаж з твораў Юркі і Ларысы Геніюшаў, апублікаваных у згаданай кніжцы.

**/ямакс/**

## ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР

Праўленне Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ запрашае аматараў навейшай беларускай гісторыі на семінар прысвечаны кніжцы Юры Туронка „Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі“. З заўвагамі да гэтай кніжкі выступіць Янка Жамойцін.

Семінар адбудзецца 13 снежня (нядзеля) а 12 гадзіне ў памяшканні Гуманістычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, вул. Лінярская 4, пакой 42.

## ДАРОГА ДА ЎЗАЕМНАСЦІ

Праўленне Польскага беларусазнаўчага таварыства арганізуе міжнародную навуковую канферэнцыю пад лозунгам „Дарога да ўзаемнасці“, прысвечаную польска-беларускім сувязям і ўплывам у галіне гісторыі, літаратуры, мовы, фальклору і культуры. Прадбачваецца, што ў ходзе канферэнцыі будзе прачытана па 10 дакладаў з польскага і беларускага бакоў. Канферэнцыя адбудзецца 29—30 студзеня 1993 года ў Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку. Плануецца таксама выезд удзельнікаў канферэнцыі на экскурсію ў Гайнаўку і Белавежу.

# НЯМА ЗЯМЛІ ПРЫГАЖЭЙШАЙ ЗА БЕЛАСТОЦКУЮ



**Размова з Анджэем Адамовічам, аўтарам гумарыстычных малюнкаў, рэдактарам лодзінскага часопіса "Karuzela".**

*- Час да часу "Ніва" на апошняй гумарыстычнай старонцы змяшчае твае малюнкі, якія раней паяўляюцца ў "Karuzeli". Відаць твой спосаб успрымання і каменціравання нашай рэчаіснасці адпавядае беларускаму чытачу. Паказваючы розныя смешныя абставіны, праяўляеш тыповую для беларуса мяккасць, пагодлівасць. Зрэшты, з тваім прозвішчам часта сустракаемся на Беларусі. Ці штосьці злучае цябе з гэтай краінай?*

- Я вельмі рады, што "Ніва" перадрукоўвае мае малюнкі. Дзякуючы гэтаму я станаўлюся больш вядомым у беларускім асяроддзі. А калі ў маім спосабе ўспрымання свету ёсць нешта характэрнае для беларусаў, то хіба па той прычыне, што мае бацькі і дзяды паходзілі з Вільні. Відаць ад іх я пераняў мяккасць і лагоднасць людзей Усходу. Мае карэнні крыху і татарскія, але мне прыемна, што і сярод беларусаў ёсць Адамовічы. З беларусамі спалучаюць мяне нейкім чынам сямейныя традыцыі, бо брат майго дзеда - Юзэф Горыд, мастак, супрацоўнічаў з даваеннымі беларускімі часопісамі і, відаць, на гэтай падставе Сакрат Яновіч у сваёй кніжцы "Białoruś, Białoruś" палічыў яго беларусам, хаця ён быў палякам шведскага паходжання.

*- Ты некалькі разоў наведаў Беласточчыну. Як яе бачыш?*

- З Беласточчынай я сутыкнуўся першы раз 35 гадоў таму назад і ад таго часу працягваецца мае захапленне гэтым закуткам Польшчы. Будучы мараком, потым у ролі турыста, я наведаў звыш сарака краін на трох кантынентах. Пабачыў я шмат прыгожых месцаў, але ўсё ж беластоцкая зямля асталася для мяне найпрыгажэйшай. Калі толькі маю свабодны час і магчымасці, ахвотна яе наведваю.

*- Ты браўся ў сваім жыцці за шматлікія прафесіі. Калісьці нават, падчас летніх канікул, наняўся рабочым у Белавежскай пушчы...*

- Праца чорнарабочым у пушчы дазволіла мне лепш яе апазнаць. Я толькі тады ўсвядоміў сабе, што праўду аб Белавежскай пушчы замоўчваецца. Не гаворыцца аб гэтым, што пушча гіне, а навакольная прамысловасць з'яўляецца для яе забойцам, што рака Лясная не мае нічога супольнага з ракой, што памяншваецца лік хваёвых дрэў, што паляванні адбываюцца быццам бы на прыватным фальварку, без прымянення прынцыпаў паляўнічай этыкі, што няма ў пушчы сапраўднага гаспадара. Мяне ўражвала таксама "ўпрыгожванне" дрэў бетоннымі птушынымі будкамі, хаця і так было вядома, што птушкі ў іх не паселяцца. У Лодзь вярнуўся я з упэўненасцю, што Белавежская пушча цяжка хворая. У мяне адсутнічала пераканане, што я для яе нешта добрага зрабіў.

*- У пушчы ты працаваў з групай жанчын-беларусак.*

- Гэта былі цудоўны і стойкія кабеты з Гайнаўкі і навакольных вёсак. Я імі проста захапляўся. Працавалі цяжка у летнюю спёку штодзень 8 гадзін, а потым садзіліся ў "газік" пагодныя, з усмешкай, быццам падлеткі, хаця некаторым было пад семдзесят. Калі аўтамабіль кранаўся з месца, яны пачыналі спяваць прыгожыя, настальгічныя беларускія песні пра каханне і штодзённы труд. Нідзе я не чуў гэтак цудоўных галасоў. Сустрэча з жанчынамі была для мяне бліскучая і здзіўляючая. Я нираз задумоўваўся, адкуль у іх столькі радасці і спагады ў іхнім горкім а нярэдка і трагічным жыцці?

Беларусы наогул паказваюцца мне людзьмі, якія не ўмеюць ісці напралом. Яны ціхія, пагодныя, цвёрдыя і працавітыя. Пагаджаюцца з лёсам. Апрача таго яны ўражлівыя, тонкія і далікатныя. Валодаюць своеасаблівым пачуццём гумару, з прымешкай жыццёвай мудрасці. Гэта цудоўныя людзі, і шкада, што мала "прысутныя" ў жыцці нашай дзяржавы ў параўнанні з іншымі нацыямі.

*- Цяпер мо крыху на іншыя тэмы. Пастаянна працуеш у "Karuzeli". Ці з малявання можна пражыць?*

- Вельмі цяжка. Я назіраю гэта і па маіх сябрах, якія таксама малююць. У сённяшні час, калі цэны пастаянна ўзрастаюць, цяжка пражыць малюючы нават шмат. На жаль, не ўсе мы можам быць дэпутатамі ці сенатарамі, а пра сп. Анастасію Пацоцкую можам толькі памарыць...

*- Ці назіранне за смешнымі момантамі ў штодзённым жыцці не пагражае "прафесіянальнай хваробай?"*

- Я спачатку ўсё прымаю ўсур'ёз. Толькі праз нейкі час заўважаю смешнасць а часам і звычайную дурноту ў здарэннях, сітуацыях ці асобах. Час бязлітасна раскрывае заганы. Я вельмі хацеў бы, каб гумар стаў прафесіянальнай хваробай, а нават сусветнай эпідэміяй, пры ўмове, што людзі сапраўды мелі б з чаго смяяцца.

*- Ці гумарыстычны малюнак не мучыць цябе?.. Ці не хочацца табе маляваць нечага "ўсур'ёз"?*

- Не, не стамляе. Кожны малюнак - гэта быццам адкрыццё, новая прыгода і яшчэ адно выпрабаванне. Але вядома, хочацца нираз намаляваць і штосьці, як кажаш, сур'ёзнае. Апошнім часам задумоўваюся над новай і экспрэсіўнай формай прадстаўлення сцэны распяцця Ісуса Хрыста. З лягчэйшых тэмаў - бяруся за маляванне некалькіх карцін у пакойчык маёй дачушкі Эмількі.

*- Як на тваю нетыповую прафесію глядзіць сям'я?*

- Цётка маей жонкі сказала ёй калісьці: "Малгося, ты нічому не здзіўляйся, ты дома маеш артыста". Вось, я і ад таго часу раблю за "артыста"! У нейкім сэнсе карыстаюся льготным тарыфам, напрыклад, магу сабе дазволіць на няшкодныя адхіленні ад нормы - начны шпацыр па лесе і г.д.

*- Часта тэмай тваіх малюнкаў з'яўляецца секс. Чаму?*

- Гэтак неяк склалася, што апошнім часам сапраўды шмат малюнкаў прысвячаю сексу. Некаторыя з іх маляваў я раней, але тады яны не прайшлі цэнзуры - быццам маглі ўразіць мараль чытачоў. Памойму - прыдуманую мараль! Секс наогул забаўляе мяне, калі не пераходзіць прыстойных межаў. Гэтаму прынцыпу падпарадкоўваю ўсе свае малюнкі. А так сапраўды, сам Бог праявіў вялікае пачуццё гумару, ствараючы жанчыну і мужчыну і г. зв. жаноча-мужчынскія справы. Мне асталася ўжо толькі скромная роля іх храніста.

Гутарыў **ПЁТР БАЙКО**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЯКІЯ ЯНЫ БЫЛІ, ЗЁЛКІ ЧАРАЎНІЦ?

Здаўна людзі лічылі, што зёлкі маюць дваякае значэнне: магічнае і сапраўднае. Міфы і казкі розных народаў вельмі часта звязаны з зёлкамі, з лячэннем пры іх дапамозе.

Якія зёлкі выкарыстоўвалі чараўніцы для сваіх чараў, падрыхтоўкі мазяў і рытуальных абрадаў? У судовых працэсах чараўніц называліся звычайна расліны, якія патрэбныя былі для розных чараў. Іхнія назвы былі іншыя, чым сёння. Можна іх, аднак, адносна лёгка акрэсліць на падставе аналізу старых медыцынскіх кніг, якія захаваліся з перыяду старажытнасці і сярэднявечча.

Зёлкі чараўніц ахопліваюць чатыры групы раслін: расліны, што атручваюць, наркатычныя расліны, „жаночыя" зёлкі і зёлкі „на каханне". Многія з гэтых раслін паўсюдна ўжывалі аж да нашых часоў. Мелі яны ўплыў на менструацыю, плоднасць, даўжыню перыяду кармлення дзіцяці, на сексуальныя магчымасці.

Шмат пра якія зёлкі людзі забыліся сёння, паколькі ад часоў праследавання чараўніц народная медыцына стала тэмай „табу". Многія лячэбныя расліны ў перыяд інквізіцыі звязвалі з д'яблам, лічылі, што яны не маюць ніякай вартасці як лекі, а з'яўляюцца толькі смяртэльна дзейнічаючай атрутай.

Праследаванне чараўніц дасягнула свайго апагею ў 16—17 стагоддзях. Быў гэта час вялікіх вучоных і дасканалых артыстаў, а разам з тым нязвыкла цёмны перыяд для гісторыка культуры. Чума, якая выступала ў той час у Еўропе, выклікала страх перад неспадзяванай смерцю. Найлягчэй у такой сітуацыі было абвінаваціць чараўніцу, тым больш, калі была гэта асоба, якая паводзіла сябе нязгодна з прынятымі нормамі і не мела занадта высокай пазіцыі ў грамадстве.

Веды пра зёлкі, якія дайшлі да нас, не вельмі ясныя. Перамешваюцца ў іх старая медыцына і тадышнія легенды. Вядома, што ў старажытных еўрапейскіх культурах найбольш выкарыстоўваліся зёлкавыя лекі ў перыяд сексуальнай актыўнасці жанчын і ў перыяд кармлення дзіцяці. У старажытнай Грэцыі, напрыклад, ведалі каля 600 лячэбных зёлак, а амаль 300 з іх выкарыстоўвалі ў перыяд менструацыі, цяжарнасці, нараджэння і кармлення дзіцяці. Ужо ў перыяд сярэднявечча былі вядомы зёлкі, якія засцерагалі жанчыну ад нежаданай цяжарнасці. Яны выклікалі менструацыю.

У перыяд праследавання чараўніц былі створаны два вобразы чараўніц: ведзьмаў і добрых матак. Чараўніца магла пераўвасабляцца сама і пераўвасабляць іншых людзей у хатнюю жывёлу і звяроў, атручваць малако і зерне збожжа, лётаць у паветры і браць удзел у сексуальных забавах з д'яблам.

За зёлкі чараўніц лічылі ядавітыя расліны, якімі калісь атручвалі стрэлы: *аканіт або боцікі, мудранку чатырохлістную.* Мелі таксама прэтэнзію да чараўніц за атручванне збожжа, напрыклад, пры дапамозе *жыцыцы і адоніса веснавога ці светніка.*

Сярод зёлак, якія ўздзейнічалі на псіхіку чалавека, пералічвалі ў якасці доказу дзеяння чараўніц адурманьваючыя сродкі з *блёкату чорнага, беладоны.*

Былі таксама зёлкі „на нервы", асабліва ў выпадку дэпрэсіі і канвульсій: *півоня аптэчная, зверабой (святаяннік), мацярдушка звычайная, вербена аптэчная, сардэчнік звычайны.* Некаторыя з гэтых зёлак уваходзілі ў розныя мазі чараўніц, іншыя прымяняліся ў якасці абязбольваючых сродкаў.

Вядомы таксама расліны, якія мелі тармазіць зацікаўленне сексуальнымі справамі, як, напрыклад, *аўраамава дрэва.*

Доследы над старымі лекамі індзейцаў дазволілі стварыць у 20 стагоддзі славутую сучасную антыканцэпцыйную таблетку. Індзейцы ведалі таксама расліны, якія выклікалі трывалую бясплоднасць. Толькі ў перыяд праследавання чараўніц былі афіцыйна асуджаны ўсялякія сродкі, засцерагаючыя перад цяжарнасцю.

Шматлікія зёлкі служылі жанчынам пры кантролі і рэгуляцыі менструацыйнага цыкла. Сярод іх былі папулярныя да сёння зёлкі і прыправы: *размарын аптэчны, чабор звычайны, сельдэрэй пахучы, палын звычайны, касач жоўты, ясянец, дзягіль аптэчны, цвінтарэй, дзераза булавападобная, любіста аптэчная.*

Вядомыя былі таксама зёлкі, якія спрычыняліся да выкідыша.

Паводле народных меркаванняў, чараўніцы маглі таксама выклікаць сімпатыю чалавека да чалавека. Сярод зёлак, якія выкарыстоўваліся пры гэтым, многія адрозніваліся прыемным араматам. Да раслін, спрыяючых узаемным схільнасцям, залічвалі: *маяран садовы, базілік пахучы, чысцік вузкалісты, лаванду, шафран пасяўны* і інш.

**ЭСКУЛАП**

## КАБ ЗДОРАВА І БАГАТА

☛ *Працяг са стар. 1*

Беласточчыне, Сувальшчыне, і на Гарадзеншчыне з заходнім Палессем знаходзяцца самыя вялікія лясныя масівы ў параўнаўча кароткай адлегласці ад насычаных гарадамі да прамысловасцяй Заходняй Еўропы. Яна і зацікаўлена захаваннем гэтай тэрыторыі ў стане блізкім да першабытнага. Хоча выдаткаваць дзеля таго салідныя сумы. Немцы, французы, англічане прыязджалі б сюды для адпачынку, але гэта адзін бок медаля. Другі - памяншаецца колькасць кіслароду /тлену/ у паветры, а вытварае яго расліны свет. Па такой жа прычыне неспакойна глядзіцца на вырубкі джунгляў у Амазоніі, Афрыцы, Інданезіі.

Мэты шляхетныя. Аднак жа ўзнікае элементарнае пытанне: як жыць аўтахтонным людзям? Ліквідацыя дымных фабрыкаў, смуроднага транспарту, мінеральных гнаёў можа перакрэсліць дарогу ў дабрабыт. Англія з Францыяй не возьмуць жа тых мільёнаў народу на сваё заможнае ўтрыманне. І ніхто не пабудуе нам задарма чыстых ад атрутных адпадкаў тых жа фабрык. А хто купіць за падвойную або і патройную цану здаровую, на гнаі з хлявоў, хаця б тую бульбу, якая не будзе жа радзіць так, як пры штучных падсыпках у раллю. Страты, стараты, страты...

Вырашана спрабаваць распрацаваць канцэпцыю тэрыторыі "Зялёных лёгкіх" такім чынам, каб аказалася яна перспектыўнай на даход усім - і Польшчы, і Літве, і Беларусі, і Украіне, і нават для Расіі з ейным Калінінградам-Кенігсбергам.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Дарагая "Зорка"!**

Пішуць табе вучні чацвёртага класа з Орлі. Мы вельмі любім урокі беларускай мовы з настаўніцай Аннай Шыманскай. На ўроках мы чытаем "Зорку", казкі, спяваем песні, танцуем. У "Зорцы" мы вельмі любім чытаць "Прыгоды мышкі Пік-Пік", вершы Віктара Шведа і анекдоты. На апошнім уроку мы запісалі легенду аб Орлі, якую расказваў нам дзед Сцяпан Русіновіч.

З паважаннем -

**вучні чацвёртага "а" класа.**

### ЛЕГЕНДА АБ ОРЛІ

Было гэта вельмі даўно. Ішоў з вайны салдат і зайшоў у вялікі лес. Наступала ноч і ён рашыў у адпачыць. Прысеў пад самым магутным дубам і заснуў. Раніцай абудзілі яго арлы, якія жылі на гэтым дубе. Спадабалася салдату гэтае месца і рашыў ён застацца тут жыць. Пачаў лес карчаваць і араць поле. Пабудаваў хату і хлявы. Арлы лёталі над яго сялібай і адтуль узялася назва пасёлка Орля.



*Дзяўчаткі з пачатковай школы ў Ягуштове. Яны вывучаюць беларускую мову.* **Фота М. Ваўранюка**

### МІКОЛА

Свяціцель Мікалай - епіскап з малаазійскага горада Міры Лікійскія (IV ст.). "Мікалай-цудатворца" - апякун пакрыўджаных і пакутнікаў, а таксама маракоў, падарожнікаў.

Адзін з самых шанаваных святых ва ўсходніх славан, у тым ліку і беларусаў, Мікола-зімовы. Менавіта ён выступае пачынальнікам сапраўднай зімы: "Да Міколы няма зімы ніколі". І Мікола-зімовы, і Мікола-летні (22 траўня) як бы адкрывалі кожны свой сезон: "Мікола - сапраўдная зіма, Мікола - сапраўднае лета". Ды зноў жа, надвор'е, якое год на год не прыпадала, уносіла папраўкі ў народныя назіранні, і часам, ашукаўшыся, людзі казалі: "Ніводнаму Міколе не вер ніколі". Затрымка зімы на Міколу была знакам, што маразы прыйдуць няскора і наогул уся зіма будзе бяспутная. Мікола-зімовы быў далучаны земляробам да будзённых гаспадарчых разлікаў і прагнозаў: "Беражы сена ад Міколы і да Міколы і не бойся зімы ніколі", - гарантавала прыказка, адзначыўшы прыблізна, колькі трэба трымаць у хляве жывёлу. Стан надвор'я ў гэты дзень арыентаваў селяніна на пачатак веснавой сяўбы, на плён у полі: "Калі іней будзе раней чым 19 снежня, то трэба сеяць ранні ячмень, калі пазней 19 снежня - позні"; "Іней, які пакрывае дрэвы на Міколу, прадказвае добры ўраджай ільну".

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

### ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

- Пеця, што з тваёю шапкай? - пытаецца мама.
- Хлопцы гулялі ёю ў футбол.
- А дзе ты быў?
- На варотах стаяў!

x x x

- Мама! Алесь муху праглынуў! Але не бойся, я яму дзве лыжкі атруты на мухі дам!

x x x

- Міхаська, Міхаська, у цябе ў галаве адны штучкі!
- Праўда? А мая мама кажа, што ў маёй галаве нічога няма!

x x x

- Ведаеце, дзеці, што леў - цар жывёл, і ён не баіцца нікога на свеце?
- Не, я думаю, што ён баіцца львіц! - адказаў настаўніку Міколка.

x x x

- Валодзька, што ты там так на вішні ясі?
- Слівы.
- Слівы на вішні?
- Дзед мне сліў даў, а ем іх там, дзе хачу.

x x x

- Дачуся, ты насыпала кураняткам проса? А вераб'ёў адагнала?
- А хіба, мама, іх прагоніш! Яшчэ калі б толькі нашыя, а і суседскія прыляцелі!

x x x

Размаўляюць дзве трохгадовыя дзяўчынкі.
- Мой тата дужы.
- А мой дужэйшы.
- Мой тата добры!
- А мой дабрэйшы!
- А мой тата п'яны!
- А мой... п'янейшы!

x x x

- Ты чаму, Вася, так позна са школы вяртаешся?
- Ведаеш, тата, каля нашай школы адзін дзядзька згубіў грошы і шукаў іх.
- Дык што - ты дапамагаў яму іх шукаць?
- Не, я на іх стаяў.

Сабрала **АСЯ ПРАЛЕСКА**

### Вершы Віктара Шведа

**ЧАМУ ВЫХОДЗІШ НА БАЛКОН?**

- Чаму ты браце мой, Лявон, -
Ганулечка пытае, -
Заўжды выходзіш на балкон,
Як толькі заспяваю?

- Быць не хачу тады з табой,
Каханая сястрыца,
Не думалі каб за сцяной,
Што я з табой стаў біцца.

**СЛОН ПАД МІКРАСКОПАМ**

- Каб ты ведаў, - кажа Сцёпа, -
Нат падумаць цяжка,
Як расце пад мікраскопам
Малая мурашка!

- Больш цікава, - сцвердзіў Федзя, -
Даражэнькі Сцёпа,
Каб слана маглі мы ўгледзець
Пад тым мікраскопам!

**МУМІІ**

Пытае Наталля
Сяброўку Людмілу:
- Як калісьці звалі
Людзей з дэльты Ніла?

- Са старога свету
Нешта мне знаёма.
Былі ж, Ната, гэта...
Муміі, вядома!

**ПАМЫЙСЯ, СЫНОК**

- Мілы мой сыночак,
Памый шчочкі, вочы,
А таксама лапкі.
Мо прыедзе бабка?

- А як не прыедзе? -
Адазваўся Федзя. -
Вельмі непрыемна
Мне мыцца дарэмна.

**Я ЎЖО ВЯЛІКІ**

Балбатлівы надта ўнучак
Найчасцей пытаннем гэткім
Дарагога дзеду мучыць:
- Калі выраслу я, дзедка?

Надзеў дзедаву вушанку,
Абуў дзедкі чаравікі
І сказаў сур'ёзна Янка:
- Я цяпер ужо вялікі.

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ЗАВЯШЧАННЕ ПАНА АБАДРАНА

Аднойчы мышка Пік-Пік гуляла разам з Веранічкай на вуліцы. На двары была восень. З дрэў абляталі жоўтыя і чырвоныя лісты. І вось між гэтых жоўтых лістоў, што пакрывалі зямлю, мышка заўважыла круглыя шакаладныя цукеркі. Не трацячы часу на здзіўленне, Пік-Пік ухапіла адну цукерачку і ўкусіла. Але на смак яна аказалася страшэнна горкай і зусім не шакаладнай. Пакрыўдзілася мышка. А Веранічка засмяялася і растлумачыла:

- Гэта зусім не цукеркі, а каштаны. Іх няможна есці.

Але выглядалі каштаны ўсё роўна незвычайна прыгожа: бліскучыя, карычневыя... І мышка проста так набірала іх і прынесла дадому. А там прыдумала пакласці ў пустую цукерачную каробку: "Буду глядзець на іх і думаць, што гэта цукеркі."

Між тым падвальны пацук пан Абадран аніяк не мог забыцца прыемнага гасцявання ў мышкі Пік-Пік. Часта ўспамінаў ён, галодны, мышчына сала, а ўяўленне малявала яму багацюшчыя мышчыны прыпасы. І вось аднойчы наважыўся ён зноў наведаць багатую паненку, але на гэты раз без яе дазволу. Папоўз пан Абадран па вентыляцыйнай трубе, дабраўся ён да знаёмай дзіркі. Але яна была замазаная пластылінам. Доўга калупаўся пацук, але нарэшце зрабіў ход у норку. Асцярожна высунуў нос: нікога няма! Скочыў пан Абадран у норку мышкі. І першае, што ўбачыў, была каробка з шакаладнымі цукеркамі! Кінуўся пан Абадран на ласунак, разжаваў адну цукерку, праглынуў... Вой, як зрабілася пану кепска!

- Атрута! - завішчэў ён. - Гэта скнарышча спецыяльна пакінула тут атручаныя цукеркі, каб калі хто залезе, здох. Паміраю!

І пан Абадран у жаху кінуўся дамоў.

У родным падвале небарака лёг на кучу пяску, задраў лапкі і падрыхтаваўся паміраць. На няшчасце, гэта заўважыў даўні вораг - дзікі кот Мурзік.

- Вось цяпер я нарэшце з'ем цябе! - мяўкнуў кот і апчэрыў пашчу над Абадранам.

- Нашто ж і табе паміраць? - прапаптаў Абадран. - Ты ж яшчэ малады...

- А чаго гэта я буду паміраць? - спалохаўся Мурзік.

- Бо я наскрозь атручаны... Таму і развітваюся з жыццём...

- Вось яно што... - Мурзік прысеў і нават пашкадаваў паміраючага.

А пан Абадран усё шаптаў:

- Ты апошні, каго я бачу ў гэтым жыцці... Таму скажу табе сваё завяшчанне. Усё, што маю - кавалачак каўбасы, хвост сялёдкі і скарынку хлеба я пакіну табе, сябра, толькі выканай маю апошнюю просьбу...

- Добра, добра, - аблізаўся Мурзік. - Выканаю, кажы.

- Ідзі, сябра Мурзік, і з'еш тую злодзейку, што забіла мяне так падступна.

- Лёгка сказаць - з'еш... А калі яна мяне з'есць? - засумняваўся кот.

- Не хвалюйся, дружа, хоць пані Пік-Пік і хітручая, але яна проста адкормленая мыш.

- А, мыш! - узрадаваўся Мурзік. - Гэта іншая справа. Гэта я з задавальненнем. А дзе мае наследства?

Знясілены пан Абадран паказаў у куток сваёй кучы:

- Тут адкапаеш...

- Ну добра, на закуску мне будзе! Кажы, дзе тая мыш жыве!

І Мурзік пайшоў на крывавую помсту. Між тым паміраючы ніяк не паміраў. Ляжаў ён, ляжаў, пакуль не надакучыла. Есці захацелася. Дастаў пан Абадран каўбасу, кату завешчаную, зжаваў... Пасля і хвост сялёдачны таямніча знік. А потым і скарыначка канец свой знайшла ў страўніку пана Абадрана. І тут вярнуўся Мурзік.

- Як, ты яшчэ жывы?! - абурыўся кот. - Ну, усё роўна, давай маё наследства...

Разгроб Мурзік пясок у кутку і падазрона паглядзеў на пацука:

- А чаму гэта ад цябе сялёдкай пахне?

Засмуціўся пан Абадран. А Мурзік раззлаваўся:

- Ну, я табе зараз памагу памерці! - і скочыў на пацука. А пан Абадран, як і не хварэў, ускочыў і як даў лататы, што толькі хвост яго кот і разгледзеў у шчыліне.

Што ж адбылося ў кватэры мышкі Пік-Пік? Ці выканаў Мурзік сваю страшную місію? Пра гэта - наступная казка.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



*Працяг з папярэдняга нумара*

ЗІНАІДА ДУДЗЮК

# ДУДКА-САМАГУДКА

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

На лясной паляне сядзяць Кастусь і Кандрат.

Кандрат. Каб яны згарэлі, гэтыя залатыя! На хвілінку адлучыўся, вярнуўся, а ты спіш як спаў! Я і падумаць не мог, што за гэты час нехта дудку мог украсці. Хто ж гэта зрабіў?

Кастусь. Эх, плач, галасі, а гору рады не дасі. Я не дудку праспаў, я долю народа майго праспаў. І няма мне даравання.

Падпанак *(нечакана з'яўляецца з-за дрэў).* Чаго засумавалі? Ці не дудку часам згубілі?

Кастусь. Ах, зладзюга, дык гэта ты дудку ўкраў? А сам кляўся, што больш не будзеш нікога рабаваць!

Падпанак. Я цяпер не злодзей, а падпанак. Во якая світа ў мяне з панскага пляча!

Кастусь. Пайшоў угору без вяроўкі! Вялікага сабакі вялікі брат!

Кандрат. Што я зараз з ім зраблю! Аддавай дудку, злодзей! *(Ганяецца за разбойнікам.)*

Падпанак. Кастусь, скажы яму, няхай ён мяне не чапае! Прашу цябе! Я нешта скажу! Вельмі важнае! Чуеш, Кастусь! Там Алеся...

Кастусь. Спыніся, Кандрат, няхай скажа...

Падпанак. Кастусь, пан з-за цябе Алесю ў падзямелле пасадзіў, не выпусціць, пакуль ты сам не з'явішся.

Кастусь. Алеся ў пана? Чым жа яна вінаватая?

Кандрат. Не ідзі, Кастусь, пан пакарае цябе.

Кастусь. Там Алеся адна... Трэба ісці.

Кандрат. І я з табой.

Кастусь. Не, ты да людзей ідзі, раскажы ім пра дудку-самагудку. Няхай яны ведаюць, што праз яе змогуць сабе здабыць шчаслівую долю. Бывай, брат!

Кандрат. Бывай! *(Абдымаюцца, развітваюцца.)*

Зацямненне.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Падзямелле ў панскім палацы. За кратамі - Алеся. Да кратаў падыходзіць пан.

Пан. Якая жар-птушка да нас заляцела! Такую прыгажуню не грэх у аксаміт апрануць і золатам аздобіць! А ці не хацела б ты ў палацы жыць ды са сваім панам час бавіць?

Алеся. Мяне ўжо выбрала доля мая, яснавяльможны пане. Прыгонная я, жыццё маё ў працы сялянскай.

Пан. Хітрая ты, дзеўка! Але мяне не абхітрыш, ведаю, што табе Кастусь падабаецца. Дзе ён цяпер?

Алеся. Не ведаю. Як пагнаў панскую мыш пасвіць, дык і прапаў.

Пан. Нічога, халоп Кастусь сам сюды з'явіцца. А ты павінна сказаць яму, каб маім дударом паслужыў.

Алеся. Дударом? Хіба ж гэта праца? Кастусь каваль знакаміты...

Пан. Не разважай шмат, а рабі тое, што загадваю. Бо аддам замуж за конюха.

Алеся. Я не хачу замуж, яснавяльможны пане.

Пан *(рагоча).* Упершыню сустракаю дзеўку, якая замуж не хоча...

З'яўляецца падпанак.

Падпанак. Яснавяльможны пане, прывёў я беглага халопа.

Пан. Вядзі сюды.

Падпанак выходзіць і прыводзіць Кастуся.

Кастусь. Добры дзень! Алесечка, як ты тут?

Алеся. Добры дзень, не турбуйся.

Пан. Не здолееш схавацца ад пана?

Кастусь. Я схаваўся б, ды ў пана пільная патрэба з'явілася.

Пан. Так. У мяне ў солі чэрві завяліся. Ці не скажаш, як ад іх пазбавіцца?

Кастусь. Я дам параду: як снег выпадзе, дык трэба яго перапаліць і тым попелам соль перасыпаць, тады чэрві ў солі згінуць.

Пан. Які востры на язык! Мыш маю згубіў, дудку ўтаіў, маёнткам маім хацеў завалодаць! Ды па табе шыбеніца плача! А пан добры, пан усё трывае!

Кастусь. І панскі гнеў, і панская ласка аднолькава бізуном пахнуць.

Пан. Няўдзячны халоп! Толькі вернаю службаю можаш заслужыць маю літасць! Будзеш граць на дудцы-самагудцы, мяне ўслаўляць і ўсіх, каго я пажадаю, прымушаць скакаць пад маю дудку!

Кастусь. Не буду!

Пан. Калі хочаш жыць на белым свеце, дык згаджайся, я табе добра заплачу, сам панам станеш.

Кастусь. Не можа дудка маніць, не можа зло чыніць. Праўду за грошы не прадасі і не купіш.

Пан. Дудка не зможа, а ты зможаш!

Кастусь. Ніколі.

Пан. Алеся, а ты што параіш свайму жаніху.

Алеся. Кастусь лепш ведае, што рабіць.

Пан. Дудка ў маіх руках! І вы ў маіх руках. Вядзі іх, падпанак, да ката, няхай катуе, пакуль не дадуць згоду.

Падпанак. Будзе зроблена!

Падпанак выводзіць Кастуся і Алесю.

Пан. Няхай толькі не дадуць згоду, я ім такую кару прыдумаю! Свет здрыганецца! З жывых скуру здыму! І паловай прысыплю! Спалю на плошчы! Няхай усе халопы глядзяць і запамінаюць, як не слухацца пана!

Увходзіць падпанак.

Падпанак. Яснавяльможны пане, не згаджаецца Кастусь граць на дудцы. Ужо і сам крывёю заліўся, і Алеся прытомнасць страціла, а згоды няма!

Пан. Дармаеды! Навошта я вас хлебам кармлю? Ідзі і скажы халопам, што я спалю іх на плошчы!

Падпанак выбягае. Пан бярэ дудку ў рукі. І раптам дудка сама заспявала пагрозна і гнеўна.

Голас дудкі. Сабяруцца хлопцы жвавыя
На расправы на крывавыя
Над панамі-крывасмокамі,
Над палацамі высокімі!

Пан. Праклятая дудка! Што спявае! Я і цябе спалю! Каб ніколі не кранула цябе чалавечая рука! *(Выходзіць).*

Падпанак прыводзіць закатаваных Кастуся і Алесю, якія падтрымліваюць адзін аднаго.

Падпанак. Кат адпачне і зноў за справу возьмецца. Лепш згаджайцеся, бо пан спаліць вас на плошчы! *(Выходзіць.)*

Кастусь дапамагае Алесі сесці на падлогу, выцірае ёй слёзы.

Кастусь. Не плач, мая родная! Твае слёзы горш за ката катуюць. Няўжо мне давядзецца згадзіцца на панскую прапанову? Часам здаецца: не вытрымаю! Хацеў цябе і народ мой з няволі вызваліць, а ўсё наадварот атрымалася.

Алеся. Не здраджвай сабе, мой любы. Я не буду плакаць. Няхай нашы ворагі не радуюцца. Я лепш заспяваю.
Сёння прыйдзе мой міленькі,
Вымяту падлогу,
Падушачку пухавую
Пасцялю пад ногі.

Кастусь. Калі дзеўка, мяне любіш
І шчыра шануеш,
Падушачку пухавую
Ты мне падаруеш.

Алеся. Як на волю хочацца! Зараз у лесе суніцы даспелі! Хоць бы адну ягадку паспытаць.

З'яўляецца мышка. У лапках яна трымае вялізную суніцу-баравіцу.

Мышка. Вось дзе вы? Усё падзямелле прайшла, пакуль вас знайшла.

Алеся. Як цуд! Мышка чалавечым голасам гаворыць!

Мышка. Мяне Бялун да вас паслаў. Перадаў ён вам суніцу-баравіцу. Ягада гэта незвычайная. Хто яе з'есць, той ніколі хварэць не будзе. Частуйцеся! Зараз усе вашы раны зажывуць. Ужо з вас кат наздзекаваўся!

Алеся. Дзякуем, мышка, табе і Бялуну. Палавіна ягады Кастусю, а другая мне з мышкаю.

Мышка. Мне не трэба, у мяне ж нічога не баліць.

Кастусь. Дзівосная ягада. Сілу вярнула, упэўненасць.

Алеся. І боль адступіў.

Мышка. А цяпер буду я падкоп рабіць, каб вас з падзямелля вызваліць, а вы мне дапамагайце.

Кастусь. Не, мышка, спярша трэба ў пана дудку забраць.

Мышка. Цяжкая гэта задача. Пан схаваў дудку ў нейкую скрыню. А тых скрыняў у пана тысячы тысяч.

Кастусь. Адшукай дудку, яна ўсім бедным людзям патрэбна.

Мышка. Пакуль я дудку буду шукаць, вас пан заб'е. Ужо на плошчу дровы возяць. Пан хоча вас спаліць.

Кастусь. Не турбуйся пра нас.

Мышка. А ты, Алеся, што скажаш?

Алеся. Рабі тое, што Кастусь кажа.

Мышка. Няхай будзе па-вашаму.

Кастусь. Вось у нас і надзея з'явілася, што не дарэмныя нашы пакуты.

Мышка выбягае.

Алеся. Кастусь, што гэта? Крокі?.. Не паспее мышка, зноў нас на катаванні павядуць. Няўжо нас спаляць, Кастусь? Як страшна... Я баюся...

Кастусь. Не трэба раней смерці паміраць. Не думай пра гэта.

Зацямненне.

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Вялікая гарадская плошча, дзе пан наважыўся спаліць Кастуся і Алесю. Пасярод плошчы складзены дровы. Высока на памосце да слупа прывязаны Алеся і Кастусь. Сабраліся людзі. Усё гатова да пакарання. Падпанак трымае паходню, чакае панскага загаду, каб падпаліць дровы.

Галасы з натоўпу. Такія маладыя! Як шкода! Ды яна ж ведзьма! Няпраўда! А чым ён вінаваты? А яна яго зачаравала! Няпраўда! Якія прыгожыя!

Пан ківае падпанку, і той абвяшчае загад.

Падпанак. Слухайце ўсе панскі загад! За падбухторванне сялян супраць пана, за здраду загадваю спаліць халопа Кастуся і ведзьму Алесю! Дазваляю асуджаным сказаць апошнія слова.

Кастусь. Людзі, змагайцеся за волю! Забярыце ў пана дудку-самагудку! Сялянскаму роду няма пераводу!..

Падпанак. Маўчаць!

Пан. Падпальвайце! Хутчэй!

Кандрат. Людзі, як можна дазволіць такое? Яны ж ні ў чым не вінаватыя!

Пан. Хам! І гэтага заадно спаліце! *(Паказвае на Кандрата.)*

Падпанак паднёс паходню да дроў, узвіўся агонь, ахапіў ногі Кастуся і Алесі.

Алеся. Як страшна!

Кастусь. Не бойся, Алесечка, мы ж з'елі суніцу-баравіцу, яна не дасць нам загінуць.

Раптам выбег з натоўпу дзядок Бялун, махнуў саламяным капелюшом - вогнішча згасла. А мышка ўмомант перагрызла вяроўку, вызваліла Кастусёвы рукі і аддала яму дудку-самагудку. Зайграў Кастусь. Заскакалі пан з падпанкам.

Падпанак. Вой! Не хачу скакаць! Спыніце музыку! Вой! Вой!

Пан. Не трэба! Не трэба! Памру! Не выжыву!

Галасы з натоўпу. Вызваляйце, адвязвайце Кастуся і Алесю! *(Кандрат адвязвае Кастуся і Алесю ад слупа.)* Глядзіце! Глядзіце! Як пан скача! Як гоцае! А падпанак ажно зямлю грызе ад злосці! Напіліся нашай крыві! Нацешыліся! Няхай цяпер павесяляцца!

Пан з падпанкам паваліліся на зямлю, нагамі дрыгаюць, лямантуюць, а спыніцца не могуць.

Пан. Скуль гэтая мыш узялася? Чаму я не кот, зараз жа з'еў бы яе! Вой! Вой! Пашкадуйце!

Бялун. Дык будзь катом!

Тут жа пан ператварыўся ў вялізнага рыжага ката, мяўкаючы, зашыўся пад дровы. Падпанак таксама паспрабаваў уцячы, але нехта падставіў яму нагу, ён упаў.

Кандрат. А цябе, злодзей, мы пасадзім у панскае падзямелле.

Кастусь. Сябры! Вялікі дзякуй усім за тое, што выратавалі нас!

Алеся. Дзякуем шчыра!

Кандрат. Гэта вам дзякуй за адданасць і мужнасць, за дудку-самагудку, што з'яднала нас і адагрэла нашы душы.

Кастусь. Не мне, Бялуну дзякаваць трэба!

Бялун. Не, хлопча, каб не тваё добрае сэрца, дык і самая чароўная дудка нічога не была б варта.

Кандрат. Сыграй, Кастусь! Свята ў нас! Ні пана, ні падпанка!

Заспявала дудка, заскакала сонца ў небе, заскакалі ды заспявалі людзі.

Кандрат. Ой, без дудкі, без дуды
Ходзяць ногі не туды.
А як дудку пачуюць,
Самі ногі танцуюць!

Алеся. Нашы рукі не дрыжаць,
Не такія людзі.
Добра сеялі, а жаць
Яшчэ лепей будзем.

Кастусь. Пасвяткавалі! А цяпер час за справу брацца. Зямелька нашых рук чакае, нашай увагі ды ласкі. Зажывем цяпер вольна!

Заслона.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Цікавы сон мне прысніўся. Іду я па нейкай дарозе і нясу коўдру і падушку. Нясу я гэта сваёй дачцэ, якая дзесьці там жыве /не ў горадзе/. Па дарозе, бачу, стаіць жанчына-калека, рукі ў яе нейкія недаразвітыя, кароценькія і такія ж ногі, здаецца, добра не памятаю, і ейныя дзеці пры ёй былі і нейкія людзі там стаялі. Я таксама затрымалася. Мне вельмі стала шкада яе, я падумала, як яна сабе дае рады. Хацелася мне ёй памагчы, але як?.. Я крыху пастаяла і пайшла далей са сваімі пакункамі. Падыйшла кавалак дарогі і падумала: "Не, лепш я вярнуся назад. Яшчэ ж мне далёка ісці да дачкі, а ўжо вечарэе. Як жа ж я потым дамоў вярнуся?" І павярнула назад.

**Мар'я**

Мар'я! Твой сон цікавы, але нядобры. Можа ён датычыць тваёй дачкі. Гэта ж ёй ты несла коўдру і падушку, а па дарозе тады спаткала жанчыну-калеку. Калі б жанчына гэта была маладая і прыгожая - чакала б цябе ці тваю дачку радасць, задавальненне. Твая ж жанчына была страшная: з недаразвітымі, кароценькімі рукамі і такімі ж нагамі, і гэта магло б прадвяшчаць нейкія плёткі ці смутак з іншай прычыны. Наогул - калі калека сніцца, так і чакай нейкай непрыемнай справы. Можа, гэта будзе нейкая хвароба/тая коўдра і падушка за гэта гаворацъ/.

**АСТРОН**

## АБМАН ТВАРАМ

Доктар Крушнеўскі з Полчына-Здрою ў дакладзе аб дбайнасці пра свой твар сказаў:

- Калі рысы вашага твару не нагадваюць вобліку прыгожых актрыс ці манекеншчыц, трэба зрабіць малое ашуканства - прымяніць касметыку, якая скрые недасканаласці і выэкспануе дадатныя ўласцівасці красы. Каб прыхаваць недастаткі - трэба на гэта прысвяціць крыху часу, дабрацъ адпаведны крэм і пудру, ну і глянуць на сябе крытычным вокам. Калі твой твар круглы - трэба прыцеміць шчокі румянай; калі твар трохвугольны - трэба рассвятліць нос і бараду, прыцямняючы румянай скулы. Вялікі, выпуклы лоб карыгуем прыцямняючы скроні ў напрамку валасоў. Лупатыя вочы цянюем колерам у шэрай танацы; над вейкамі кладзем цень цёмны, вышэй цень крышку святлейшы; тушуем ніжнюю вейку, падкрэсліваючы яе абрыс. Пры ападаючых павеках падкрэсліваем контур ніжняй павекі, прадаўжаючы яе ў напрамку скроні; сярэдні куточак вока рассвятляем. Ну і заўсёды трэба памятаць, каб дастасаваць макіяж да пары дня і абставін.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ЛІСТ З АМЕРЫКІ ДА ЛЁНІКА ТАРАСЭВІЧА

### Добры дзень дзядзька Лявон!

Гэта я, малады Пётра, з-за акіяна. Пакуль што я жывы, чорныя яшчэ не забілі. Хаджу я ў школу, крыху праблем маю з англійскай мовай. Акрамя гэтага Амерыка мне не падабаецца, — яда гідкая, амерыканкі паскудныя. Што тут можа падабацца? У школе перавага чорных. Паволі прывыкаю да гэтага, крыху іншага, жыцця. Вучуся, працую, у мяне мала вольнага часу. За 7 месяцаў будуць вакацыі. Тады будзе цудоўна.

Я быў на XX-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Было так сабе. Дзень перад сустрэчай была патанцоўка (забава). Дзяўчаты ад 60-ці ўгору. Нагуляўся нямала. Зрэшты, дзядзька, ты ўсё знаеш сам, што я тут буду над гэтым разводзіцца. Бывай здаровы.

Да пабачэння,

**ПЁТРА**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Рабіна супраць радыяцыі

Нездарма на Усходзе, у рэгіёнах гарачага клімату, так распаўсюджаны гарачы зялёны чай, які дапамагае пераносіць гарачыню і павышае працаздольнасць. Любы чай, а асабліва зялёны, змяшчае цэлую гаму вітамінаў, у тым ліку так званых біяфлаваноідаў (вітаміны групы Р). Яны дабратворна ўплываюць на арганізм, стымулююць яго ахоўныя сілы, дапамагаюць у абмене рэчываў. І, нарэшце, што вельмі важна, вітаміны паляпшаюць здароўе абпраменёных людзей.

Прырода шчодра забяспечыла нас гэтымі вітамінамі. Ёсць яны ва ўсёй флоры, напрыклад, у шыпшыне, чарнаплоднай рабіне, парэчках, мандарынавых лупінах, грэцкіх арэхах, кропе, пятрушцы...

Вітаміны групы Р перш за ўсё выкарыстоўваюць для лячэння артэрыясклерозу, гіпертаніі і рэўматызму. З прычыны сваіх антымікробных і антывірусных уласцівасцей карысныя яны таксама пры інфекцыйных захворваннях — дызентэрыі, адры, пнеўманіі, шкарлятыне. Выяўлена станоўчае дзеянне вітаміна Р пры лячэнні хранічных экзем і дэрматыту.

Акрамя таго, эксперыментальна даказана: біяфлаваноіды садзейнічаюць вывядзенню з арганізма цяжкіх металаў — ртуці, свінцу, цынку і кадмію.

### Як захаваць зерне

Як лепш захаваць зерне і іншыя прадукты? Гэта праблема хвалюе вучоных многіх краін. Японскія спецыялісты прапануюць замяніць свірны бетоннымі пляцоўкамі пад слоем вады.

Велізарныя герметычныя пластмасавыя мяшкі з рысам апускаюць на дно рэк або сажалак на глыбіню да шасці метраў. Тут, без рэзкай змены тэмператур і доступу паветра, рыс можа знаходзіцца шмат гадоў.

**(а-ця)**



## КАСЯК НА "К"




**Управа:** 1/ нясякомае-крывасмок, 2/ службовы апякун, 3/ вялікая сума грошай, 4/ кусок, 5/ супраўваджае і пільнуе, 6/ "кіслае малако".

**Улева:** 7/ вопратка на мароз, 8/ палюбоўнік, 9/ у яго зорачкі на плечках, 10/ вясельны пірог, 11/ прыстасаванне для бесперапыннага перамяшчання вырабаў, 12/ дыван ручной работы.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжыванку з 43 н-ра. Упоперак:** пост, тхор, шпага, арол, жарт, бюро, Адам, дуб, Крым, цана, ахова, ляск, рука, Рым, сена, ліна, крот, асот, манна, альт, плот. **Уніз:** плач, сноб, храм, рытм, плод, граб, люты, жаба, школа, умова, кабан, мак, цар, свет, урна, рака, млын, ікра, соль, асёл, штат.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Барбара Гура** з Любліна /узнагароду высылаем/ і **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока /запрашаем у рэдакцыю/.

## АГЕНЦТВЫ „АЛЕКС" І „ТУЛІПАН" У ОЛЬШТЫНЕ

Нядаўна пісаў я ў „Ніву" пра дзяўчат, якія любяцца за грошы. Цяпер раскажу пра агенцтвы „Туліпан" і „Алекс".

* * *

У агенцтве „Туліпан" можна па тэлефоне заказаць сабе мужчыну для кампаніі. Выглядае гэта менш-больш так:

— Патрэбны мне будзе мужчына гадоў 25—35, ростам 180 см, вытрымалы, які не будзе баяцца цялесных уцехаў у кампаніі чатырох жанчын.

— Маем такога — бландзін з барадою.

— Ці зможа ён задаволіць сексуальныя капрызы гэтых чатырох жанчын?

— Так.

— Колькі гэта каштуе?

— Два мільёны злотых; а за гэтую апошнюю экстра-паслугу вам трэба плаціць дадаткова. Дамовіцеся паміж сабою.

— А колькі ён можа захацець дадаткова?

— Пэўна нейкіх 500 тысяч злотых ад жанчыны.

* * *

— Агенцтва „Алекс" прапануе жанчын для кампаніі: гадзіна, праведзеная з такой дамай каштуе 500 тысяч злотых.

— Чаго, апрача размовы, магу спадзявацца ад жанчыны?

— Жанчына — гэта душа кампаніі.

— Я хачу ўмовіцца з гэтай жанчынай.

— Прывязем жанчыну туды, дзе захочаце спаткацца і далікатна вас праверым.

— Якая гэта будзе праверка?

— Спішам вашы пашпартныя даныя, каб быць упэўненымі, што дзяўчына знаходзіцца ў добрых руках.

— А ніхто не выкарыстае гэтыя даныя, каб мяне скампраметаваць?

— Не. Дзяўчына вяртаецца і паперы ідуць у сметнік.

— Ці гэтыя жанчыны здаровыя?

— Вядома — з лекарскім пасведчаннем.

— Не заражаны яны СНІДам?

— Дзяўчаты нашы чыстыя, пэўныя. Існуе пагроза заражэння ад кліентаў, бо што з таго, што дзяўчына здаровая, калі кліент можа заразіць яе нейкім вірусам.

— Разумею, што з дзяўчынай для кампаніі дазволены сексуальныя кантакты?

— Знаеце, ёсць розныя формы адпачынку...

— Ці гэтыя жанчыны маюць адпаведны вопыт?

— Яшчэ ніхто не скардзіўся...

— А ці прымаеце рэкламацыю?

— Так, натуральна.

— Прысылаеце іншую жанчыну для папраўкі?

— Не, паўтораў няма — запісваем толькі, якія пажаданні кліента жанчына не выканала. Гэта дазваляе нам ляпей падрыхтаваць жанчын да іх працы. Вялікай зацікаўленасці гэтай працай няма. Жанчыны або саромяцца, або баяцца бацькоў. У агенцтве „Алекс" працуюць толькі дзве жанчыны.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**



## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

... у вёсках Беласточчыны пражывае дзевяноста чалавек, якім больш за 100 гадоў. Сярод іх 65 жанчын і 25 мужчын. Найстарэйшыя, **Марыя Маркевіч** з Каянкі (Сямяціцкая гміна) і **Ядвіга Голко** з Грымячкаў каля Сухаволі, маюць па 112 год. Ад іх мала адстае **Дамініка Вілюк** з вёскі Вілюкі (Дубіцкая гміна) — ёй 108 гадоў. **(яц)**



**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міроновіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993r. wraz z wysyłką wyniesie 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

### ІРОНІЯ ЛЁСУ

Шчалкапёры гулі роем:
- Быць яму вякоў героем!
Звычную пакінуў базу,
Які жах: герой наш - блазан!

### ФАКС

Жыццё - маскарад.
Маска. Кара. Рад.

**СІДАР МАКАЦЁР**

**Юрка Голуб**

## РЭШТА З РЭШАТА

### СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ

Душу з гармоніка цягнуў,
Як рыбу з вымаіны.
Іграў Мамоне на рагу,
На Д'ябла імянінах.

### КОЎДРА

З іх кожны коўдру на сябе
Цягнуў - не спаць жа ў кіцелі.
Цяплей, як болей заграбеш -
Аднолькава змікіцілі.

### СКАРГА ЗАЙЗДРОСНІКА

Вакол зладзеяў, як сабак.
Няхай пярун іх шасне!
І сам бы хапянуў усмак,
Ды не з нашым шчасцем.

### ВЫБРАНАЯ ШЧОДРАСЦЬ

Расцвітаў на шчоках квет,
Песціў вока дужа.
Абдымала цэлы свет
За выняткам мужа.



— Але загнаў я ў тупік старога — запытаў, адкуль бяруцца дзеці?!



# НАЎКА




## ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ СА СВЕТУ

У адным з невялікіх гарадоў штата Нью-Йорк мужчына скочыў з пятага паверха з мэтай самагубства. Але трапіўшы на дах аўтамабіля, што стаяў унізе, ён не атрымаў і драпіны. Мужчына зноў падняўся на пяты паверх і скочыў. І зноў яму не пашанцавала: ён трапіў на дах той самай машыны. Скочыць трэці раз мужчыне не дала паліцыя, якая завязла яго ў шпіталь: той зламаў косць рукі і шчыкалатку.

* * *

Нядаўняе апытанне мужчын, якім задавалася адно пытанне: „Ці ахвяруеце вы сваім месцам у выратавальнай лодцы для незнаёмай жанчыны, калі вы будзеце на караблі, што тоне?" выявіла, што толькі трэцяя частка мужчын зробіць гэта. А калі ім было зададзена дадатковае пытанне: „Што, калі той жанчынай будзе Мадона?" дык лічба „джэнтльменаў" зменшылася да васьмі працэнтаў.

* * *

Японскія медыкі надрукавалі некалькі новых плакатаў па прафілактыцы СНІДа. На адным з іх партрэт знакамітага вампіра — графа Дракулы з надпісам: „Я баюся СНІД". Вось ужо і вампіры трапілі ў „групу рызыкі".

* * *

Шаснаццацігадовы хлопец са штата Індыяна скончыў самагубства з-за таго, што бацькі не дазвалялі яму мыцца на працягу многіх гадоў. Пачалося гэта, калі яго немаўля-сястра патанула ў ванне пятнаццаць год таму. Сябры ўнікалі сустрэч з хлопцам з-за вельмі непрыемнага паху цела.

* * *

Вельмі прыстойна апрануты чалавек, які прыйшоў на лекцыю ў Мадрыдскі планетарый, раптам пачаў выць, калі на экране над галавой з'явілася поўня. Калі ў планетарыі запалілі святло, наведвальнікі былі літаральна шакіраваны. Мужчына меў кіпцюры, рукі і твар былі пакрыты поўсцю. Ваўкалака, які па словах аднаго са сведак, „рыкаў, як дзікі звер", у кайданках вывела паліцыя.

* * *

Згодна вучоным, чалавекам з найвышэйшым інтэлектуальным узроўнем, які на 79 пунктаў перавышае раней зарэгістраваны, з'ўляецца маці чатырох дзяцей, якая працуе ў пральні. Адукацыі жанчына амаль не мае. А цяпер вучыць адразу тры замежныя мовы. Калі яна мае вольны час, дык трэніруе мозг тым, што складае нумары бялізны і запамінае імёны, дні нараджэння і адрасы ўсіх кліентаў пральні.

*По матэрыялах часопісаў „Weekly World News", „USA Today", „Newsday", „Penthouse"*

*падрыхтаваў* **Алесь Кудраўцаў**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

- Ратуйце, памажэце!.. - загрукаў у дзверы сусед. - Ну прападаю!
- Што здарылася? - спалохалася суседка.
- Курыць хочацца, уміраю. Не маеце папяросаў?
- Дзеля такога такі вэрхал?! Гэта каб хлеба галоднаму, то іншая справа...
- За хлебам не прыйшоў бы. А то - вытрымаць не магу...

* * *

- Ты ведаеш, ты каля мяне як нейкая мятла выглядаеш. Без зубоў, валасы як стрымбулі!

Глянула Міра ў люстэрка: і праўда! Муж праўду сказаў. Яму то абеды давай смачныя, дагаджай, а калі на сябе час маеш паглядзець?

О не! Так больш не будзе!

Пайшла Міра да зубнога ўрача, лячыць зубы, устаўляць новыя. Пайшла і ў цырульню.

Прыйшоў муж дадому. Паставіла Міра бутэрброды з маслам і зялёным гурочкам.

- Што гэта такое? Дзе людскі абед?! - ускіпеў Васіль.

- Абед як абед, ды ты паглядзі на мяне. На мае коскі, на мае зубкі! - засмяялася жонка.

**АЎРОРА**



— Веласіпедзік мяне ўжо не цікавіць. Калі назбіраю грошай, куплю сабе вібратарчык.

*Інтэрв'ю з Анджэем Адамовічам, аўтарам змешчаных на гэтай старонцы малюнкаў, чытайце на стар. 8.*



# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! У 48 (1907) нумары „Нівы" я прачытала ліст медсястры Альдоны, якая расказала пра непрыемны выпадак, які з ёй здарыўся ў сяброўкі на імянінах. Яна, змучаная пасля дзяжурства, прылегла ўздрамнуць у сяброўчынай спальні, а праз нейкі момант да яе далучыўся адзін з сяброўчыных калег. Яна, ні ў чым не вінаватая, мусіла пасля чырванець перад сяброўкай і яе госцьмі.

У маім жыцці здарылася нешта падобнае. У маёй сяброўкі сабралася шмат людзей. Быў прыём у гонар аднаго маладога чалавека, які жыў пастаянна, здаецца, у Швецыі. Маёй сяброўцы вельмі імпанавала, што ён у яе хаце і што ўсе сяброўкі ёй зайздросцяць цікавага госця.

Усе скакалі вакол яго. Сяброўка сказала мне, што яму заграніцай пашанцавала. Быў спрытны і, хаця пачынаў ад нуля, зрабіў там салідны бізнес. Ну, а да ўсяго гэтага шукаў на Беласточчыне жонку. Калі ж дадаць яшчэ, што госць гэты быў цалкам прыстойны і не стары, дык можаш сабе, Сэрцайка, уявіць, які гэта быў унікат для маладых, незамужніх жанчын, што сабраліся ў той хаце. Хлопцы з жалем спаглядалі збоку на іх гарачыя позіркі, скіраваныя толькі на аднаго.

Але я ўжо цвёрда ведала, што гэта мая сяброўка, якая арганізавала гасціну, не выпусціць чалавека з рук. Не дзеля таго ж яна на гарэлку і пачастунак выкашталавалася...

Сэрцайка, мушу табе сказаць шчыра, што мне гэты хлопец, як і ўсім дзяўчатам, прысутным тут, падабаўся, аднак я не старалася асабліва скакаць каля яго. Проста ў мяне быў хлопец, якога я кахала. Толькі ён мяне цікавіў як мужчына, а гэты мог зацікавіць наогул як чалавек. І таму я нават не старалася перашкаджаць іншым дзяўчатам, якія перакрыквалі адна другую, каб заімпанаваць гэтаму хлопцу.

Але ён якраз звярнуў чамусьці ўвагу на мяне. Падсунуўся бліжэй, пачаў размаўляць, распытваць мяне пра розныя справы. У мяне ад радасці не перавярнулася ў галаве. Я ведала, што маёй сяброўцы гэта не спадабаецца, і была даволі стрыманая ў адносінах да яго.

Калі хлопец цмокнуў мяне ў руку, а пасля і ў шчаку, я нават крыху перапужалася. Што цяпер будзе? Мо варта пайсці ўжо дахаты, але ж яшчэ надта рана, усе будуць здзіўлены, што я ў гэтым моманце ўцякла.

Заграпічны хлопец усё падсоўваў і падсоўваў мне кілішкі, а я, як той дурань, выпівала. Урэшце ўсё перада мной закружылася, як на каруселі, сяброўка падскочыла да мяне і завяла мяне ў другі пакой. Я легла на канапе, але мала што і цяміла. Усё надалей кружылася перад вачыма.

У пэўным моманце мільгануў твар таго хлопца. Я думала, што гэта мне так толькі здаецца. Але раптам адчула, што ён узяў мяне за грудзь. Прылёг побач са мной, і яго рука павандравала мне пад спадніцу. Я ўскочыла, але не дала рады выйсці з пакоя. Ён пачаў мяне цалаваць па шыі, шукаў губ, але я вырывалася, хоць і не выцверазела да канца. Хлопец быў заўзяты, а я не мела намеру яму ўступіць. Нарэшце мне ўдалося вызваліцца з яго абдымкаў і я выскачыла з гэтага пакоя і далучылася да кампаніі.

Мінуты праз дзве выйшаў і той хлопец. Быў у адной майцы, кашулю нядбала кінуў на адно плячо. Даваў усім зразумець, што не паспеў апрануцца да канца, хаця я не заўважыла, каб ён мяне распранаўся. „Курва!" — кінула мне сяброўка, а ў мяне ў вачах паказаліся слёзы. Маёй сяброўцы не прыйшло ў галаву, што хлопец гэты хацеў даказаць гэтым сваім маскарадам, што ніводная дзяўчына не ў стане яму адмовіць, што не адмовіла і я. А я ж была невінаватая!

Больш з гэтай сяброўкай мы не сябруем.

**Рэня**

Рэня! Я ж ужо Альдоне адказвала, што людзі мяркуюць па сабе. Добра, што вы перасталі сябраваць. Гэта пойдзе табе ў карысць.

**СЭРЦАЙКА**